ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 12 (2414) 23 сакавіка 1995 г. Выдаецца з 1955 г.
Цана 100 рублёў.

АДЗНАЧЫЦЬ ЮБІЛЕЙ АКАДЭМІІ МАСТАЦТВАЎ

ГОДНА І ПРЫГОЖА

## ТАЛЕНТ — ГЭТА ЦЯЖКАЯ ПРАЦА



**Пачыналася акадэмія ў пасляваенным 1945 годзе з тэатральнага інстытута, у якім быў толькі акцёрскі факультэт. У 1953 годзе адкрыўся мастацкі факультэт, і тады інстытут атрымаў назву Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі. У далейшым установа пашыралася, з'яўляліся новыя спецыяльнасці і спецыялізацыі, што дало падставу рэарганізаваць яе ў 1992 годзе ў Беларускую акадэмію мастацтваў. Выпускнік акадэміі, народны мастак Беларусі прафесар Васіль Шаранговіч выкладае ў ёй з 1967 года. Шмат гадоў з'яўляецца рэктарам акадэміі. Прапаноўваем чытачам "Голасу Радзімы" інтэрв'ю нашага карэспандэнта з Васілём ШАРАНГОВІЧАМ.**

*-- Васіль Пятровіч, Акадэмія мастацтваў -- элітарная навучальная ўстанова, здаецца мне, сюды заўсёды цяжка было трапіць вучыцца, тут выкладаюць вядомыя дзеячы культуры...*

-- Мне не вельмі падабаецца слова "элітарная". Я б сказаў, што наша акадэмія -- месца, дзе працуюць таленавітыя людзі, таленавітыя выкладчыкі і студэнты. Вядома, талент -- гэта такая велічыня, якую цяжка вымераць. Ён не мае арыфметычнага эквіваленту. Дзе заканчваецца вышыня таленту? У сусветным мастацтве вяршыняй таленту можна лічыць Мікеланджэла і Леанарда да Вінчы. Але няма такіх вагаў, на якіх можна ўзважыць талент. Мы ж не гаворым, што на гэтых мастаках спынілася развіццё мастацтва. Кожная эпоха -- гэта свой погляд на сусвет, свая вышыня, свой узровень. Таму, калі я гавару, што ў акадэміі -- таленавітыя педагогі і студэнты, то дадаю -- у большай ці меншай ступені.

Я ўпэўнены, што талент з'яўляецца прыналежнасцю нацыі і народа. І чалавек, які ім валодае, не мае права раскідвацца такім скарбам. Талент накладвае на чалавека пэўныя абавязкі перад сваёй дзяржавай. Таму я б не стаў гаварыць пра элітарнасць нашай установы.

**(Заканчэнне на 5-й стар.).**

ПАМЯЦІ Алеся ПАЛЬЧЭЎСКАГА

## СВЕТЛАЙ ДУШЫ ЧАЛАВЕК

СЁЛЕТА споўнілася б 90 год з дня нараджэння беларускага дзіцячага пісьменніка, празаіка і драматурга Алеся Пальчэўскага. Так здарылася (а памёр ён у красавіку 1979 года), што спакваля забываецца на яго творчасць чытач. З таго ж 1979 не прыходзяць да дзетвары новыя выданні твораў Алеся Восіпавіча. Прычын на тое шмат. Ёсць, магчыма, і аб'ектыўныя. Свае творы спяшаюцца выдаць жывыя... А між тым, якраз на аповесцях, апавяданнях, казках Алеся Якімовіча, Уладзіміра Дубоўкі, Алеся Пальчэўскага выхоўваліся пакаленні беларускіх хлопчыкаў і дзяўчынак. Чаму ж сёння няма ў кнігарнях цудоўных кніг пра дабрыню і ўзаемапавагу? Хіба ж лішнімі могуць быць гэтыя якасці? Ды пытанні падобнага роду хутчэй да выдаўцоў, чым да нашага чытача. Мы ж давайце згадаем, які след пакінуў аб сабе Алесь Пальчэўскі.

Праглядаючы бібліяграфію напісанага пра творчасць, жыццёвы шлях пісьменніка, звяртаючы ўвагу на рэцэнзіі на яго кнігі, нельга было б не заўважыць адметнасць назваў публікацый. Яны дзеляцца як бы на дзве плыні. У першай -- "Дарагое сэрцу", "Сагрэтая любоўю", "З верай у чалавека", "Дарагі мой чалавек", "Ёсць у мяне друг", "Дабрыня", "Патрабавальнае сумленне", "Пясняр душэўнай шчодрасці"... І другая плынь -- "Перажытае", "Старонкі жыцця", "Вышыні пражытых гадоў"... Як бачым, усё навідавоку. Блізкія людзі, сябры па творчасці, крытыкі вызначаюць Алеся Восіпавіча як добрага, чулага настаўніка дзетвары, чалавека, здабыўшага права на слова дзякуючы багатаму жыццёваму вопыту.

Аднаму з аўтараў гэтых радкоў пашчасціла і на адметныя завочныя сустрэчы з пісьменнікам, калі вучыўся ў Пухавіцкай сярэдняй школе. Якраз тут у свой час і настаўнічаў Алесь Восіпавіч. Было гэта на другі год пасля вайны. Ды сталы ўжо педагог вярнуўся не з фронту, а з сталінскага канцлагера... У 1936 годзе Пальчэўскага незаконна рэпрэсіравалі. У 1937 прыгаварылі да васьмі гадоў зняволення. Так і адпрацаваў лесарубам да 1946 года. Прыехаў у Беларусь, на Міншчыну. Спачатку ўладкаваўся ў школу ў мястэчку Пухавічы. Выкладаў беларускую мову і літаратуру. Якраз тады поплеч з Пальчэўскім працаваў Васіль Лапко. Ён і расказаў пра руплівасць і энергічнасць пісьменніка. Як быццам і не было ў таго за плячыма дзесяці лагерных і турэмных гадоў.

Мала было Пальчэўскаму працы ў школе. Алесь Восіпавіч ведаў сям'ю кожнага свайго вучня. Імкнуўся сам сабе знаходзіць пазакласную працу. А яшчэ арганізаваў пухавіцкую моладзь (пераважна -- настаўніцкі асяродак) у сапраўдную драматычную студыю. Вопыт, канешне ж, быў. Яшчэ ў 1923--1924 гадах (у сааўтарстве з І.Жаўрыдам) стварыў п'есу "Зняслаўлены бацька". Тады ж яе паставілі на вясковай сцэне. Спектакль з поспехам паўтараўся некалькі разоў. А ў 1932 годзе ў выдавецтве "Чырвоная змена" выйшла асобнай кніжкай для школьнай самадзейнасці п'еса Пальчэўскага "З чырвоным сцягам". У 1934-м -- яшчэ адно кніжнае выданне драматычнага твора "Зламаная іголка".

Сярод самадзейных артыстаў, што збіраліся ў хаце партызанскага камандзіра Уладзіміра Жыльчыка, былі і Васіль Лапко, Галіна Пілатовіч, шмат хто яшчэ. І ўсе, хто ведаў Алеся Восіпавіча, згадваюць высокую інтэлігентнасць, светласць гэтага чалавека, яго дабрыню. З Пухавіч настаўніку і пісьменніку давялося пераехаць у Рудзенск. І там працаваў у школе. А ў 1949 годзе Пальчэўскага паўторна арыштавалі. І зноў -- лагеры...

Ды з Пухавічамі Алеся Восіпавіча ядналі дзве шчымлівыя адмеціны. Першая -- і радасная, і шчымліва-пякучая. Тут пісьменнік (а гадамі ж яму было не так ужо і шмат -- за сорак усяго) сустрэў сваё каханне. Яна -- тады маладая дзяўчына, настаўніца -- жыве і зараз у мястэчку. І прызнацца, неяк няёмка распытваць у гэтай паважанай, сталай жанчыны пра прычыны, што сталі перашкодай у паяднанні двух лёсаў. Можна здагадвацца, маючы на ўвазе няпросты той час.

Другі пухавіцкі штрышок аказаўся ў біяграфіі Пальчэўскага трагічным. І пухавіцкія сябры-настаўнікі даведаліся аб гэтым недзе толькі ў шасцідзесятыя, якраз тады Алесь Восіпавіч прыехаў у мястэчка на сустрэчу да чытачоў. І ўжо пасля, у застоллі, у сяброўскім асяроддзі, паведаў -- як бы з гумарам, з усмешкаю -- пра адну акалічнасць. Важкім першаштуршком у другім арышце Пальчэўскага стаўся ліст-данос у Мінск, у НКВД.

**(Заканчэнне на 6-й стар.).**

ПАШТОЎКА З БЕЛАРУСІ



Траецкае прадмесце ў Мінску.

Фота Віктара СТАВЕРА.

ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*ВЫБАРНАЯ КАМПАНІЯ*

## МЕЧАСЛАВА ГРЫБА ВЫЛУЧЫЛІ ЗЕМЛЯКІ

У Дзятлаўскім раёне Гродзенскай вобласці прайшоў сход выбаршчыкаў па вылучэнню кандыдата ў дэпутаты Вярхоўнага Савета Беларусі новага склікання.

Члены калектыву сельскагаспадарчага таварыства "Ніва" вырашылі вылучыць кандыдатам свайго земляка -- старшыню вышэйшага заканадаўчага органа рэспублікі Мечаслава Грыба.

## БНФ ПАПЯРЭДЖВАЕ

Кіраўніцтва партыі Беларускага народнага фронту выступіла з заявай у сувязі з завяршэннем падрыхтоўкі да выбараў.

Як адзначаецца ў заяве, упершыню ў гісторыі Беларусі кіраўнікі пяці дэмакратычных партый падпісалі ўзгоднены спіс кандыдатаў у дэпутаты. Такім чынам, лічаць кіраўнікі БНФ, падрыхтоўчы этап выбарчай кампаніі блоку дэмакратычных сіл завяршыўся паспяхова.

На іх думку, выбары будуць праходзіць у складанай сітуацыі ў сувязі з тым, што "з боку ўлад ужо пачаўся націск на апазіцыйныя арганізацыі і абмежаванне дэмакратычных свабод; па-другое, улады і прарасійскія сілы зробяць усё магчымае, каб дэзінфармаваць і дэзарыентаваць выбаршчыкаў".

"...Лічым неабходным папярэдзіць, -- гаворыцца ў заяве, -- пра небяспеку ўвядзення выбаршчыкаў у зман з-за раскольніцкай палітыкі некаторых былых дзеячаў партнаменклатуры: прадстаўнікоў дырэктарату, якія цяпер называюць сябе "дэмакратамі". Яны абвясцілі пра стварэнне альтэрнатыўнага блоку пад назваю "Грамадзянская згода".

На думку кіраўніцтва БНФ, стварэнне гэтага блоку -- свядомая спроба раскалоць адзінства дэмакратычных сіл і заблытаць выбаршчыкаў.

*У АБАРОНУ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ*

## ЗВАРОТ У ААН

"Дзеці Беларусі павінны вучыцца, а таксама мець магчымасць прадоўжыць навучанне на роднай мове ў вышэйшых навучальных установах, і гэта павінна быць клопатам дзяржавы", -- сказаў журналістам Мікола Купава, як прадстаўнік каардынацыйнага камітэта па абароне беларускай мовы ў Прадстаўніцтве ААН у Беларусі.

Камітэт быў утвораны на пачатку лютага і аб'ядноўвае каля трыццаці грамадскіх арганізацый Беларусі, якія занепакоены стаўленнем да беларускай мовы з боку ўрада Беларусі.

Напярэдадні першай гадавіны прыняцця новай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь прадстаўнікі новаўтворанага камітэта перадалі Зварот да сусветнай супольнасці ў сакратарыят Прадстаўніцтва ААН, што ў Мінску, тэкст якога друкуецца ніжэй.

ПРАДСТАЎНІЦТВУ
АРГАНІЗАЦЫІ АБ'ЯДНАНЫХ НАЦЫЯЎ
У РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ

Шаноўнае спадарства!

Мы, прадстаўнікі шэрагу грамадскіх арганізацый Беларусі, звяртаемся да вас як да прадстаўнікоў міжнароднай супольнасці, каб праінфармаваць пра дыскрымінацыю нас, беларусаў, па нацыянальнай прыкмеце, пра парушэнне нашых чалавечых правоў і правоў нашых дзяцей. Спадзяемся на разуменне і падтрымку.

У Рэспубліцы Беларусь больш за 300 тысяч дзяцей вучацца ў сярэдніх школах у роднай беларускай мове, якая паводле Канстытуцыі краіны з'яўляецца дзяржаўнай. Тым не менш, атрымаўшы сярэднюю адукацыю, выпускнікі беларускіх школаў не маюць магчымасці працягваць яе на беларускай мове ў вышэйшых навучальных установах, бо ў Беларусі няма ніводнага нацыянальнага універсітэта. Уся вышэйшая адукацыя вядзецца ў замежнай мове былой краіны-каланізатара -- рускай. У 1995 годзе сярэднія школы з беларускай мовай навучання заканчваюць 13 тысяч вучняў, і яны, такім чынам, не змогуць рэалізаваць свае чалавечыя правы ў галіне вышэйшай адукацыі.

Неаднаразовыя звароты да дзяржаўных органаў Беларусі: Міністэрства адукацыі, Савета Міністраў, Вярхоўнага Савета і апошні зварот у кастрычніку 1994 года да Прэзідэнта Беларусі -- засталіся без станоўчага адказу. Мы вымушаны апеляваць да міжнароднай супольнасці, каб яна праз ААН аказала адпаведны яе паўнамоцтвам уплыў на дзяржаўныя інстытуты Рэспублікі Беларусь дзеля забеспячэння імі правоў чалавека на атрыманне адукацыі ў роднай мове.

Мы лічым, што немагчымасць нашымі дзецьмі атрымаць вышэйшую адукацыю ў беларускай мове з'яўляецца парушэннем артыкулаў 3, 13, 14, 15, 17, 21, 22, 50, 59 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і артыкулаў 2, 22, 23, 26, 27 Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, якія ратыфікаваны Беларуссю як членам ААН.

Лічым неабходным прыезд на Беларусь камісій ААН па правах чалавека і правах дзіцяці. Гатовы прадставіць іх увазе дакладныя і змястоўныя матэрыялы па ўзнятым пытанні.

*ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ*

## РУХ ДА РЫНКУ

За 1994 год у Беларусі прыватызавана 605 прадпрыемстваў, на якіх занята 147 тысяч чалавек.

З агульнай колькасці прыватызаваных за гэты перыяд прадпрыемстваў 248 пераўтвораны ў акцыянерныя таварыствы, 153 -- выкуплены арэнднымі прадпрыемствамі, 204 -- прададзены на аўкцыёне (па конкурсу).

На долю прадпрыемстваў прамысловасці прыпадае 20,8 працэнта, будаўніцтва -- 10,9 працэнта, сельскай гаспадаркі -- 0,8 працэнта, гандлю -- 39,8 працэнта, грамадскага харчавання -- 7,1 працэнта, бытавога абслугоўвання насельніцтва -- 8,3 працэнта. Агульны кошт маёмасці склаў 482,6 мільярда рублёў. Ад прыватызацыі прадпрыемстваў дзяржаўнай уласнасці атрымана 43,4 мільярда рублёў.

*ПА ЗАСЛУГАХ*

## КОЛЬКІ КАШТУЕ ЗВАННЕ?

Кабінет Міністраў рэспублікі прыняў пастанову, якой рэгламентуецца памер выплат работнікам, удастоеным ганаровых званняў.

Усім, хто працуе на прадпрыемствах, ва ўстановах і арганізацыях, што фінансуюцца з рэспубліканскага бюджэту, за званне "народны" будзе выплачвацца 20 мінімальных заработных плат. Менавіта такую суму атрымаюць народныя пісьменнікі Рэспублікі Беларусь, народныя паэты, народныя артысты Беларусі і СССР, народныя мастакі рэспублікі і Савецкага Саюза, народныя архітэктары СССР, народныя ўрачы, народныя настаўнікі.

За ганаровае званне "заслужаны работнік Рэспублікі Беларусь і СССР" назначаны памеры выплат у дзесяць мінімальных зарплат.

*ПЕРАСЯЛЕНЦЫ*



Перасяленцы і бежанцы з усіх куткоў былога Савецкага Саюза далёка не рэдкасць у гарадах і вёсках нашай Беларусі. Едуць людзі з розных мясцін, але больш за ўсё з краін Балтыі, Сярэдняй Азіі і Каўказскага рэгіёна. І многія на беларускай зямлі знаходзяць сваю другую радзіму, мір і спакой для сваіх сем'яў. Вось і вёска Пелішча Камянецкага раёна не выключэнне. Тут пасялілася некалькі сем'яў армян. Яны працуюць у мясцовым калгасе "40 год Кастрычніка", абсталёўваюць свае падворкі, будуюць свае дамы.

У праўленні калгаса як аб адным з лепшых спецыялістаў гавораць пра 35-гадовага Рубэна Саакяна. Ён займаецца рамонтам рухавікоў трактароў і аўтамашын. Выдатны спецыяліст і добры чалавек, ён хутка знайшоў агульную мову з жыхарамі вёскі.

НА ЗДЫМКУ: Рубэн СААКЯН (справа) з жонкай АСЯЙ (злева), дочкамі РОЗАЙ і АЙК і сваякамі Лізай КАЗАРАН, яе дачкой ЛУІЗАЙ.

*У ФОНДЗЕ ЕФРАСІННІ ПОЛАЦКАЙ*

## ЖАНЧЫНЫ ГОДА

Усебеларускім жаночым фондам Ефрасінні Полацкай было прынята рашэнне вызначыць жанчын года ў розных сферах грамадскага жыцця.

Сярод жанчын года:

СТЭФАНІЯ СТАНЮТА -- народная артыстка Беларусі; Ганна СУРМАЧ -- старшыня Вялікай рады згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына"; Валянціна ПАЛЕВІКОВА -- старшыня беларускай жаночай партыі "Надзея"; Інэса ДРАБЫШЭЎСКАЯ -- міністр аховы здароўя; Ларыса КУЗНЯЦОВА -- генеральны дырэктар сумеснага беларуска-нямецкага прадпрыемства "БЕЛВЕСТ"; Наталля ДРОЗД -- намеснік старшыні Камісіі ААН па справах жанчын; Тамара ВІННІКАВА -- упраўляючая "Беларусбанка".

Уручэнне медаля святой Ефрасінні Полацкай названым ЖАНЧЫНАМ ГОДА адбудзецца ў Сафійскім саборы 5 чэрвеня, падчас святкавання агульнанароднага дня святой Ефрасінні Полацкай -- заступніцы Беларусі перад Госпадам.

*УЗНАГАРОДЫ*

## МЕДАЛЬ Ф. СКАРЫНЫ МІТРАПАЛІТУ ФІЛАРЭТУ

Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Мітрапаліт Філарэт (Вахрамееў К.В.) узнагароджаны медалём Францыска Скарыны.

Высокай узнагароды ўладыка ўдастоены за шматгадовую плённую дзейнасць па адраджэнню, захаванню, развіццю духоўнай і культурнай спадчыны беларускага народа.

*БЕЛАРУСКАЯ АРМІЯ*

## У БУНДЭСВЕР НА ВУЧОБУ

У ваеннае ведамства Беларусі паступіла запрашэнне з ФРГ на вучобу ў 1995--1996 гадах у ВНУ Генеральнага штаба Бундэсвера 11 чалавек па 11 спецыяльнасцях: электронная тэхніка, ваенная тапаграфія, камандзіры артылерыйскіх і пяхотных падраздзяленняў і г.д.

У Міністэрстве абароны ўжо ідзе праца па падбору кандыдатаў.

*БЕЛАВІЯ*

## РАСПРАВІМ КРЫЛЫ

Нацыянальная авіякампанія БЕЛАВІЯ адкрыла 35 паветраных ліній па краінах СНД. Хутка адбудзецца першы рэйс з Мінска ў Лондан. Што датычыцца міжнародных перавозак, то ў мінулым годзе БЕЛАВІЯ перавезена на 15 працэнтаў пасажыраў больш, чым у папярэднім. Акрамя рэгулярных рэйсаў выканана 790 заказных і чартэрных палётаў у 22 краіны свету. Толькі праз Атлантыку па маршруту Мінск--Шэнон--Нью-Йорк перавезена больш за пяць тысяч пасажыраў. Хутка на базе гэтага маршруту будуць пракладзены новыя лініі ў Цэнтральную і Паўднёвую Амерыку.

*З БЛАГАСЛАВЕННЯ ПАПЫ*

## МІНСК — ДУХОЎНЫ ЦЭНТР

"Мінск можа стаць духоўным цэнтрам накшталт Цюрыха, Бруселя, Жэневы", -- так лічаць прадстаўнікі Партыі падтрымкі СНД і экуменічнага руху "Багародзічны цэнтр".

Партыйцы і святары сышліся ў бачанні сталіцы СНД як палітычнага цэнтра новага тыпу -- духоўнага, дзе СНД развіваецца на грунце еўрафедэралізму.

У Беларусі спрадвеку мірна суіснавалі і ўзаемадзейнічалі розныя канфесіі. Так што экуменічныя ідэі для яе зусім не чужыя. Да таго ж, на гербе Мінска -- выява Дзевы Марыі, г.зн. наша сталіца знаходзіцца пад патранажам Багародзіцы. Вось так супалі геапалітычныя і духоўныя вытлумачэнні існавання Кансультацыйнага цэнтра СНД. Што цікава, старшыня вышэйназванай партыі атрымаў благаславенне папы Іаана Паўла II.

*НА БРЭСТЧЫНЕ*

## МОСТ БУДУЮЦЬ ЗЛАЧЫНЦЫ

Брэсцкая вобласць паступова становіцца мостам паміж злачынным светам Захаду і СНД. Да такога сумнага вываду прыйшлі ўдзельнікі абласной нарады, на якой былі разгледжаны пытанні каардынацыі дзеянняў праваахоўных органаў і выканаўчай улады па ўмацаванню дысцыпліны і грамадскага парадку.

На нарадзе, у якой прынялі ўдзел сакратар Савета Бяспекі Віктар Шэйман, намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Міхаіл Сазонаў, кіраўнікі рэспубліканскіх сілавых і кантралюючых структур, прагучалі і іншыя трывожныя факты. Рост злачыннасці на Брэстчыне ў мінулым годзе склаў 25 працэнтаў. Асабліва хвалюе тое, што яшчэ больш імкліва павялічваецца колькасць разбояў, крадзяжоў дзяржаўнай і асабістай маёмасці.

*ВЫЛЮДКІ*

## ПАКАРАЦЬ СМЕРЦЮ

З патрабаваннем пакараць смерцю сексуальнага маньяка звярнуліся да Прэзідэнта, Генеральнага пракурора, Старшыні Вярхоўнага Савета жыхары Гомеля.

Вось ужо 10 месяцаў цягнецца следства па справе настаўніка малюнка гомельскай сярэдняй школы N 62 Віталя Аржаных.

Летась 13 мая 7-гадовая Каця Кантар пайшла ў школу і не вярнулася. У гэты ж дзень быў затрыманы настаўнік, які пазней прызнаўся ў забойстве дзяўчынкі. Падмануўшы сваю вучаніцу, В. Аржаных адвёз яе на веласіпедзе ў лясны масіў, дзе згвалтаваў і забіў. Побач з яе магілай было выкапана яшчэ некалькі -- для будучых ахвяр...

Гамяльчане патрабуюць пакараць смерцю злачынцу, лічаць, што ён "не павінен хадзіць па беларускай зямлі".

Супрацоўнікі Беларускага таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма") і рэдакцыі газеты "Голас Радзімы" смуткуюць з выпадку заўчаснай смерці супрацоўніка таварыства "Радзіма" МАЛАХАВА Аляксандра Віктаравіча і выказваюць глыбокае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.

## ПРАЗ ТРЫ ВАЙНЫ

# ГЕНЕРАЛ З АЛЬБЯРЦІНА



Слонімшчына... Колькі слаўных імён звязана з тваёй гісторыяй! Колькі славутых музыкантаў, пісьменнікаў, мастакоў, палкаводцаў, дзеячаў навукі і тэхнікі ты дала роднай Беларусі! Немагчыма нават усіх пералічыць. Але абмінуць генерал-лейтэнанта інжынерных войск, кандыдата ваенных навук Яўгена Варфаламеевіча Леашэню (1900--1981 гады) таксама нельга. Быў ён не толькі вайскоўцам, але і заўзятым беларускім краязнаўцам. Генерал Леашэня напісаў гісторыю Слоніма і Слонімшчыны і перад смерцю перадаў яе ў Слонімскі краязнаўчы музей, дзе і па сённяшні дзень захоўваюцца чатыры тоўстыя рукапісныя тамы з дакументамі і фотаздымкамі.

Нарадзіўся Я.Леашэня ў снежні 1900 года ў пасёлку Альбярцін каля Слоніма. Многія старыя жыхары горада добра памятаюць, як юны Жэня працаваў разам з бацькамі на суконнай фабрыцы графа Пуслоўскага, успамінаюць таксама, як ён з чаравікамі за спіною бегаў басанож уздоўж чыгуначнага палатна ў Слонімскае вышэйшае пачатковае вучылішча, якое давала яму адукацыю ў аб'ёме сучаснай дзевяцігодкі. Пра гэты перыяд яго жыцця цікава расказваў старэйшы беларускі паэт, які яго добра ведаў, Сяргей Новік-Пяюн: "Яшчэ да кастрычніцкага перавароту ў Расіі на галоўнай вуліцы Слоніма, каля вітрыны кнігарні Венцыяна Любоўскага, можна было заўважыць сціплага юнака, які падоўгу разглядаў кнігі. Пастаіць, пастаіць і пойдзе. Зацікавіла гэта кнігара, і аднойчы ён не стрываў, запытаўся:

-- Малады чалавек, а чаму вы ніколі не заходзіце да мяне ў магазін?

Хлопец збянтэжыўся, пачырванеў, апусціў вочы на свае стаптаныя чаравікі.

-- Вы, пэўна, любіце кнігі? -- распытваў далей Любоўскі.

-- Вельмі.

-- Дык чаму ж не заходзіце?

-- Грошай няма. Я працую на Альбярцінскай фабрыцы графа Пуслоўскага. Зарабляю мала.

-- Нічога, калі-небудзь заробіце больш. А пакуль што заходзьце без грошай!

І кнігар павёў хлопца ў сваю бібліятэку, што знаходзілася ў падвале магазіна.

-- Выбірайце любыя кніжкі, ды так, каб вам на тыдзень чытаць хапіла. А ў наступную нядзелю возьмеце яшчэ.

У хлопца аж вочы заблішчэлі ад радасці. З таго часу кожную нядзелю прыходзіў ён да Любоўскага і ніколі не выходзіў з пустымі рукамі...

У верасні 1939 года Чырвоная Армія выгнала палякаў са Слоніма. Перад кнігарняй Любоўскага затрымалася ваенная машына. Станісты афіцэр выйшаў з машыны і накіраваўся ў магазін. Увайшоўшы, узяў пад казырок:

-- Добры дзень, спадар Любоўскі! Ці памятаеце вы таго альбярцінскага хлопца, якому давалі чытаць кніжкі?

-- Як жа, як жа, памятаю...

-- А ці ведаеце вы, што тыя кнігі дапамаглі хлопцу стаць палкоўнікам Чырвонай Арміі, які стаіць перад вамі?..

Вайсковец абняў і пацалаваў усхваляванага кнігара, а потым пасадзіў яго ў машыну і павёз у свой родны Альбярцін.

Доўга гутарылі былыя сябры. Было ім аб чым пагаварыць. А калі апынуліся ў розных мясцінах, пачалі перапісвацца. Часта паказваў мне стары Любоўскі пісьмы, што прыходзілі ад Леашэні з Масквы, і змахваў з вачэй слёзы радасці.

У 1944 годзе, калі вайна адышла на захад ад Слоніма, днём і ноччу праходзілі па горадзе савецкія часці, грукаталі па бруку танкі і гарматы. Каля дома гісторыка-краязнаўчага музея, дырэктарам якога я быў на той час, спынілася легкавушка. У памяшканне ў суправаджэнні афіцэраў зайшоў генерал і пачаў аглядаць здымкі на сценах фае.

-- А вось і мой родны Альбярцін! -- узрадавана паказаў генерал Леашэня на адзін са здымкаў.

-- Прабачце, вы генерал-маёр Леашэня? -- падышоў я да яго.

-- Але... Адкуль вы ведаеце маё прозвішча? -- здзівіўся ён.

-- Мне пра вас расказваў Любоўскі, -- дадаў я.

-- Дзе ж ён цяпер? -- усхвалявана спытаўся генерал.

-- Расстраляны фашыстамі.

Леашэня спахмурнеў, зняў фуражку. Пастаяў некалькі хвілін моўчкі, а потым развітаўся і выйшаў..."

У першую сусветную вайну сям'я Леашэняў пераехала ў Петраград, але была там нядоўга. Вярнуўшыся на радзіму, Яўген Леашэня пачаў працаваць настаўнікам у вёсцы Жарабілаўка былой Баранавіцкай воласці. А потым па прапанове і парадзе аднаго батальённага камісара ён рашыў стаць ваенным і летам гэтага ж года дабравольцам запісаўся ў Чырвоную Армію.

У 30-я гады Яўген Леашэня становіцца слухачом Ваеннай акадэміі імя Фрунзе. Тут упершыню ён сустракаецца з Дзмітрыем Карбышавым -- вядомым спецыялістам ваенна-інжынернай справы. Паміж маладым слухачом і начальнікам кафедры завязалася моцная дружба. Д.Карбышаў прымаў удзел у мадэрнізацыі Брэсцкай крэпасці перад першай сусветнай вайной і кансультаваў будаўніцтва абарончых ліній у многіх беларускіх пагранічных гарадах напярэдадні другой сусветнай вайны і таму добра ведаў і вельмі любіў Беларусь. Але галоўную павагу віднага спецыяліста Леашэня заслужыў самастойнасцю думкі і ўменнем адстойваць свае перакананні. Калі ад Ваенна-інжынернай акадэміі адышла Акадэмія Генеральнага штаба, Карбышаў быў запрошаны на працу ў зноў створаную акадэмію і рэкамендаваў на сваё месца Я.Леашэню, які ўжо скончыў да той пары ад'юнктуру.

Яўген Леашэня шмат працаваў над удасканаленнем ваенна-інжынернай школы, развіваў тэорыю тактыкі інжынерных войск, тэорыю інжынернага забеспячэння бою і аперацыі.

У гады Вялікай Айчыннай вайны Яўген Леашэня выконваў абавязкі начальніка інжынерных войск Маскоўскага абарончага рубяжу, пасля быў начальнікам штаба аператыўнай групы інжынерных загарод Стаўкі Вярхоўнага Галоўнага камандавання ў абароне Масквы. Прымаў таксама ўдзел у абароне Севастопаля і Крыма.

У 1944 годзе начальнікам штаба інжынерных войск 1-га Беларускага фронту вызваляў родную Беларусь, сваю Слонімшчыну. Дайшоў да Берліна, удзельнічаў у разгроме Квантунскай арміі на Далёкім Усходзе.

Пасля вайны Яўген Леашэня ўзначальваў кафедру інжынерных войск Ваенна-інжынернай акадэміі імя Куйбышава, потым кафедру інжынерных войск Ваенна-палітычнай акадэміі імя Леніна, а перад пенсіяй быў намеснікам начальніка Ваенна-інжынернай акадэміі імя Куйбышава па навуковай і вучэбнай рабоце.

Пяць гадоў Я.Леашэня адпрацаваў выкладчыкам у Ваенна-тэхнічнай акадэміі Войска Польскага ў Варшаве. Дарэчы, ён быў адным з яе заснавальнікаў.

Як бачыце, шмат спраў было ў слонімскага генерала Леашэні. Але нягледзячы на сваю занятасць, Яўген Варфаламеевіч любіў і цаніў беларускую мову, культуру і гісторыю. Прыкладам гэтага можа служыць яго сяброўства з многімі беларускімі дзеячамі літаратуры і мастацтва. Асабліва шчырым было яго сяброўства з Якубам Коласам.

Імя Якуба Коласа Яўген Леашэня пачуў яшчэ тады, калі вучыўся ў Альбярцінскім двухкласным вучылішчы (1912--1914 гады), дзе выкладаў тады перадавы беларускі настаўнік Восіп Петрашкевіч. Ён знаёміў сваіх вучняў з творамі Янкі Купалы, Францішка Багушэвіча, Цёткі, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча. Гутаркі аб беларускай літаратуры В.Петрашкевіч праводзіў не ў класе, а ў школьным садзе або ў час экскурсіі ў лес, на раку Шчару, на Альбярцінскае возера...

У пачатку лістапада 1942 года ў Ташкенце, у Доме Савецкай Арміі, адбыўся ўрачысты сход, прысвечаны 60-годдзю з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Якуба Коласа. У прэзідыуме сходу былі прадстаўнікі Вярхоўнага Савета і члены ўрада БССР. А ў цэнтры сядзеў сам юбіляр, дарагі ўсім чалавек -- Якуб Колас. Ён быў вельмі ўсхваляваны: не чакаў, што ў такі цяжкі для краіны час яго будуць віншаваць.

Ад імя арміі, Ваеннай акадэміі і франтавікоў юбіляра вітаў Я.Леашэня. У перапынку Якуб Колас падышоў да Яўгена Варфаламеевіча, пацiснуў руку і падзякаваў за цёплыя словы. У лютым 1943 года адбыўся чарговы выпуск Ваеннай акадэміі імя Фрунзе, Яўген Леашэня запрасіў Якуба Коласа на ўрачыстасць.

У красавіку 1943 года Ваенная акадэмія імя Фрунзе (Леашэня працаваў начальнікам кафедры інжынерных войск) вярталася ў Маскву. Сланімчанін пакідаў Ташкент. Цёплым вясновым надвячоркам 15 красавіка Яўген Варфаламеевіч развітаўся з Якубам Коласам.

У 1944 годзе Леашэня зноў накіраваўся на фронт. Пачаў перапісвацца з Якубам Коласам, расказваў пра вызваленую заходнюю частку Беларусі, пра сустрэчу з маці.

Толькі ў 1954 годзе Яўген Леашэня вярнуўся ў Маскву. Зноў пачаў працаваць, аднавілася і перапіска з Якубам Коласам.

Неўзабаве Я.Леашэню перавялі працаваць за мяжу, і ліставанне з Якубам Коласам зноў перапынілася. Толькі з газет даведаўся ён аб смерці беларускага песняра. Засталіся на ўсё жыццё цёплыя ўспаміны пра сустрэчы і кніжка вершаў "Голас зямлі", выдадзеная Дзяржаўным выдавецтвам Узбекістана да 60-годдзя паэта, з аўтографам: "На ўспамін земляку -- палкоўніку Леашэню. Якуб Колас. Ташкент, 1942 г."

У снежні 1981 года не стала і генерал-лейтэнта Я.Леашэні -- удзельніка трох войнаў (грамадзянскай, Вялікай Айчыннай і з Японіяй).

У 1984 годзе адна з вуліц старажытнага горада над Шчарай пачала насіць яго імя, а на адным з будынкаў Слоніма адкрыта мемарыяльная дошка ў памяць аб ім.

Вось такім быў і застаўся ў памяці сваіх землякоў генерал Яўген Леашэня.

**Сяргей ЧЫГРЫН.**

**НА ЗДЫМКУ: Яўген ЛЕАШЭНЯ на фронце. Малюнак невядомага мастака, 1942 г.**

## СТАРЭЕ ВЁСАЧКА МАЯ...





**Ёсць у Баранавіцкім раёне вёска Стайкі. Нічым адметным яна не вылучаецца, не выйшла адсюль вялікіх знакамітасцей, не вельмі пацярпела і ў час войнаў. Але мясцовыя старажылы не прамінуць пры выпадку пахваліцца: "Наша вёска і самая вялікая ў акрузе, і самая старая. Першая хата з'явілася тут больш трохсот гадоў назад".**

**На жаль, у апошнія гады ў Стайках наваселляў амаль не спраўляюць. Няма каму і для каго будаваць. Сумна бачыць, як старэе вёска, што і па сёння з'яўляецца цэнтрам калгаса "Шлях Леніна". Гаспадарка быццам і немалая, а працаздольных засталося толькі 270 чалавек.**

**Праўда, і пенсіянеры не хочуць быць без заняткаў: на падвор'і можна заўважыць і карову, і авечку, і курыцу... Інакш не пражыць, бо калгасная дапамога мізэрная.**

**НА ЗДЫМКАХ: на перакрыжаванні дарог сяльчане ўстанавілі крыж -- сімвал веры і чысціні; жыхарам Стайкаў Івану і Стэфанідзе БІГЕЛЬ па 75 гадоў, але яны яшчэ працуюць . А таму трымаюць і карову, і цёлку, і парсюка, і авечак, і курэй.**

**Фота Эдуарда КАБЯКА.**

## НА ПЕРАКРЫЖАВАННІ НЯБЕСНЫХ ШЛЯХОЎ

**У Беларускім цэнтры кіравання паветраным рухам можна, як гаворыцца, абняць неабдымнае і ўбачыць немагчымае. Напрыклад, можна на экране спакойна назіраць адразу за ўсімі пралятаючымі ў гэтую мінуту над тэрыторыяй Беларусі самалётамі. Лёгкі дотык да кнопкі -- і побач з сімвалам рухомага аб'екта, што свеціцца, з'яўляецца лічбавае абазначэнне рэйса. Тут гучыць у асноўным англійская мова: толькі на гэтай мове прыняты зносіны дыспетчараў з экіпажамі авіялайнераў у палёце. А ўсе астатнія стараюцца гаварыць амаль шэптам...**

**Неба Беларусі -- перакрыжаванне паветраных шляхоў. Больш за 200 авіякампаній 64-х дзяржаў, мноства мясцовых ведамстваў карыстаюцца ім. З набыццём рэспублікай суверэнітэту, падобна зямлі, нетрам, неба таксама атрымала статус стратэгічнага элемента, што характарызуе рэальную незалежнасць дзяржавы. Створаны два гады назад пры Савеце Міністраў, а цяпер перададзены ў распараджэнне Міністэрства транспарту і камунікацый, Камітэт па выкарыстанню паветранай і касмічнай прасторы і кіравання паветраным рухам з'яўляецца сёння своеасаблівым каардынуючым цэнтрам.**

**-- Мы супрацоўнічаем з органамі дзяржаўнага рэгулявання выкарыстання паветранай прасторы ўсіх краін СНД і Балтыі, міжнароднымі авіяцыйнымі арганізацыямі, авіякампаніямі далёкага і блізкага замежжа, многімі беларускімі ведамствамі, -- расказвае старшыня Камітэта Уладзімір Журба.**

**Беларускі цэнтр арганізацыі паветранага руху, створаны ў 1993 годзе, абслугоўвае паветраныя судны, забяспечваючы бяспеку, прадастаўляючы ў іх карыстанне наземныя сродкі кіравання.**

**... У цэнтры кіравання палётамі не прынята шумець. Усе сур'ёзныя і заклапочаныя. Дыспетчары -- гэта эліта, але ў той жа час і працаўнікі, як і спецыялісты радыётэхнічнага забеспячэння. Яны працуюць у адзіным тэхналагічным коле. На працягу гадзіны, бывае, забяспечваюць праходжанне 30--35 самалётаў, прычым, да 55 працэнтаў з іх -- "далёкага замежжа".**

**Таццяна СМІРНОВА.**



**У дыспетчарскім пункце Беларускага цэнтра арганізацыі паветранага руху. Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА.**

ПІСЬМО З ЛЬВОЎШЧЫНЫ

# ЦІХАЯ ЛЮБОЎ ДА АЙЧЫНЫ

Я разглядаю старадаўні вышыты ручнік, зроблены рукамі беларускай бабулі амаль сто гадоў таму назад. Шмат чаго давялося яму пабачыць за гэта стагоддзе, выціраючы, усмоктваючы ў сябе і кроў, і пот не аднаго пакалення беларусаў. Ён і хрысціў, і жаніў, і адпраўляў у той, лепшы свет. Гэта толькі ў новай тканіне можна разгледзець, адкуль пачынаецца, як пляцецца і дзе заканчваецца тая альбо іншая нітачка, аб чым яна распавядае. А ў гэтай, прайшоўшай праз жорны жыцця, усё так пераблыталася, пераплялося, што цяжка зразумець, дзе тут пачатак, а дзе канец, тым больш угледзець загадкавую душу беларуса. Чаго ў ёй больш --крыўды за шматвяковы прыгнёт ці гонару за тое, што ўсё ж выжылі, не зламаліся; спрадвечнай адвагі ў барацьбе за сваю волю ці таго, што зараз завецца запазычаным, чужым словам -- беларускі менталітэт. Можа навукоўцы і маюць рацыю, толькі вось каб хто-небудзь растлумачыў, што гэта слова азначае. Можа гэта тое, што пры разбурэнні "нерушымага" Саюза і нам амаль што з неба ўпала незалежнасць і мы доўга не ведалі, што з ёю рабіць, бо ніколі толкам не каштавалі волі і, як цяля, што згубіла свой статак, разгубіліся. І толькі праз паўтара месяца, пасля таго як і Расія сказала, што яна незалежная і вольная, мы таксама вымушаны былі паўтарыць, што мы й самі з вусамі, бо не было да каго прытуліцца, не было куды дзецца. Хуценька памянялі шыльды, уваскрэсілі Пагоню, памянялі назвы вуліц, успомнілі пра родную мову, пра сваю гісторыю. Але, на правялікі жаль, так жа хуценька і выдахліся, як у Высоцкага: "Пробежал всего сто метров и упал, а жалко". Аказалася, што нельга вось так адразу -- і на волю, як таму вадалазу з-пад мнагатоннага ціску вады, так і народу з-пад многавяковага прыгнёту. Воля, якая ўпала з неба, пакуль што ў летуценнях і марах. Як пісаў другі расійскі паэт А.Твардоўскі: "Обозначено в меню, а в натуре нету". На самай жа справе ланцуг не разарваны, а толькі паслаблены, і дастаткова раззлаваць старэйшага брата, як ён шморгне за гэты ланцуг, каб народ зноў паставіць у стойла, пры гэтым хлусліва падбрэхваючы і гладзячы па шэрсці, маўляў, беларускі народ добры, рахманы, ментальны, не тое, што Чэчня. Калі гэта маецца на ўвазе пад словам менталітэт, то яно ганьбіць нацыю і народ.

Калі ж гэта павага і памяркоўнасць да іншых нацый і культур, самаахвярнасць пры абароне агульнага людскога дома, а вядома, што беларусы паклалі на алтар Перамогі кожнага чацвёртага ці ўзялі на сябе найбольшы цяжар, калі здарылася чарнобыльская бяда, якім бы словам гэта ні называлася, то складае гонар нашай нацыі.

Не проста тчэцца доля-палатно беларуса, але прыгожы малюнак яе ўсё больш прызнаецца і шануецца ў свеце. Ціхая любоў да Бацькаўшчыны -- вось тая галоўная, чырвоная нітачка ад бел-чырвона-белага нашага сцяга, якая звязвае ўсіх свядомых беларусаў, незалежна ад таго, куды іх закінуў лёс. Я ўглядаюся ва ўзор колішняй вышыванкі і прыгадваю долю сваіх землякоў, простых і шчырых беларусаў, бо і ручнік гэты вышыты руплівымі рукамі матулі Нілы Ракаўчук.

Нарадзілася Ніла Платонаўна ў сялянскай сям'і, у глухой беларускай вёсцы Юравічы Калінкавіцкага раёна. Там жа, непадалёку, у тым жа раёне ў сяле Шадаткі, нарадзіўся яе чалавек, муж, гаспадар -- Ракаўчук Іосіф. І пайшлі яны разам па свеце, туды, куды загадвала Радзіма, бо здавалася гэта вышэйшым патрыятызмам. Ён служыў у шматлікіх гарнізонах Украіны і Расіі, а яна настаўнічала, вучыла дзетак разумнаму, добраму, вечнаму. Акрамя праграмных урокаў, былі ў яе жыцці і такія, што не прадугледжаны праграмай, а ішлі ад яе празрыстай, як беларуская крыніца, душы. Гэта ўрокі жыцця -- аб дабрыні, справядлівасці, аб хлебе. Аб адным такім уроку распавядала "Львоўская праўда" яшчэ ў 1981 годзе.

-- Аднойчы, -- успамінае Ніла Платонаўна, -- расказвала дзецям англійскую прытчу аб бохане, які выпякалі адразу тысяча чалавек, а ў самой штось падперла ў горле, навіслі на вачах слёзы, і не магу слова сказаць. Гэта нахлынуў на мяне ўспамін пра родную, галодную пасляваенную вёску, калі мы, вясковыя хлапчукі і дзяўчаткі, хаваючыся ад брыгадзіра альбо старшыні калгаса, бегалі па калючай пожні хлебнага поля і збіралі каласкі, ужо добра ведаючы, што за такое "злачынства" саджалі за краты, высылалі на Поўнач і Калыму. Калі ж, сабраўшы снапок, прыносілі дамоў, бацькі лаялі, але не моцна, а больш так, для парадку. Заканчвалася размова часцей за ўсе пытаннем, ці хто бачыў. "Не, -- адказвалі мы, -- ніхто не бачыў. -- "Ну й добра", -- казаў бацька. І мы ўсёй сям'ёй па зярнятку раскладвалі больш моцныя на насенне, астатнія на салодкі сялянскі хлеб. Аб гэтым у школе не гаварыла, нельга было аб гэтым, бо не супадала з лініяй партыі. Таму аб нашым горкім і самым салодкім у свеце хлебе гаварыла англійскімі прытчамі, хаця ў сэрцы запякліся словы, вышытыя яшчэ бабуляй: "Хлеб усяму -- галава". І гэта для яе не лозунг, а самы сапраўдны спосаб жыцця.

Але найбольш яскрава вось ужо больш як сорак гадоў тугу па Радзіме, выяву ціхай і бескарыслівай любові да Айчыны замацавала сваімі рукамі. Разам, усёй сям'ёй яны малююць, вышываюць і вяжуць, выразаюць і выпальваюць. І ў кожным творы мастацтва абавязкова куточак Бацькаўшчыны: ці то ўзгорак на беразе Прыпяці, ці палеская рачулка, ці Белавежская пушча, ці ўзор сівой мінуўшчыны, але ўсё гэта разам завецца Айчынай. Любоў да яе перададзена з маленства дзецям -- Людміле і Ліліі, перайшла далей да ўнукаў -- Віталіка, Вячаслава, Таццяны і Антона. Яны пакуль што мала бачылі Радзіму, але ўжо шмат чаго чулі і добра ведаюць, што ёсць такая краіна Беларусь, якая для іх родная зямля, і таму так шчыра вымалёўваюць яе красу і непаўторнасць. Вось і нядаўна, ужо ў рамках дзейнасці нацыянальна-культурнага таварыства "Белая Русь" імя Ф.Скарыны, у Львове адбылася выстаўка іхняй творчасці. Больш як сто работ, сярод іх вышыванкі і старадаўнія ручнікі, прадметы абутку і вопраткі, зберажоныя дзядулямі і матулямі, сучасныя малюнкі, драўляная скульптура і фатаграфія, усё гэта аб'яднала дынастыю Ракаўчукоў. Абласное ўпраўленне культуры, згуртаванне "Просвіта" адзначылі іх працу пачэсным дыпломам першай ступені, а ўдзячныя землякі -- беларусы Львоўшчыны, усхваляваныя ўбачаным, доўга пляскалі ў далоні, адчуваючы, як трэба любіць Радзіму.

На маё пытанне: "Як жывецца вам тут, браты-беларусы, тут на Львоўшчные?" адказваюць амаль што ва ўнісон і Ніла Платонаўна, і Іосіф Антонавіч: "Жывём добра! Радуемся, калі ў нашых братоў-украінцаў хоць трошкі паляпшаецца жыццё, дапамагаем, чым можам, засмучаемся, калі наадварот". І ужо потым, трошкі памаўчаўшы, вымаўляюць, зноў амаль што разам: "Сумуем па Радзіме".

**Б.ЦІМОШЧАНКА.**

г. Львоў.

ХРОНІКА МАБ

## ПАДАРУНКІ МУЗЕЮ

Сябра камітэта МАБ, дырэктар Беларускага інстытута навукі і мастацтва (Нью-Йорк) доктар Вітаўт Кіпель передаў музею "Беларусы ў свеце", які ствараецца ў Нацыянальным навукова-асветным цэнтры імя Ф. Скарыны, унікальныя дакументы, якія сведчаць аб пашыранасці беларускай мовы паміж католікаў. Сярод іх -- індульгенцыя (адпушчэнне грахоў), выдадзеная ў 1951 годзе папам рымскім Янку Чарапуху Змагару, "Энцыкліка" папы Пія XII, выдадзеная на беларускай мове ў Рыме ў 1946 годзе, рукапіс "Парадак імшы святой лацінскага абразу па-беларуску -- на ўрачыстасць залатога юбілею святарства айца Францішка Чарняўскага" (Чыкага, 1970).

Са Злучаных Штатаў Амерыкі паступіла таксама этыкетка "Беларускага хлеба", які заваяваў шырокі попыт у насельніцтва.

**Наталля ГОЛУБ.**

## ФРАНЦЫЯ — БЕЛАРУСЬ

Міжнародны камітэт беларусістаў атрымаў ліст з Парыжа, ад доктара Бруна Дрвескага, які працуе ў Нацыянальным інстытуце ўсходніх моваў і культураў і з'яўляецца прэзідэнтам Нацыянальнай асацыяцыі "Францыя — Беларусь". Ён выказаў згоду выступіць на II Міжнародным кангрэсе беларусістаў з дакладам "Беларусь як полюс культуры і як вернутая ў гісторыю прастора".

Варта прыгадаць, што доктар Дрвескі з'яўляецца аўтарам кнігі пра Беларусь, выдадзенай у мінулым годзе ў Францыі.

**Наталля МАРЦЫНКЕВІЧ.**



**Зноў спраўна служыць прыхаджанам Казанская царква ў Віцебску. Яна была ўзведзена на правым беразе Заходняй Дзвіны 235 гадоў назад. Гэта не толькі дзеючы храм, але і помнік архітэктуры ранняга класіцызму з элементамі барока.**

**Сёння многія архітэктурныя дэталі храма ўзноўлены ў іншым варыянце, у прыватнасці, шасцігранны купал царквы. У цэлым жа пабудова зменена нязначна.**

**Штодзённа ідуць у царкву прыхаджане. Тут адбываюцца абрады вянчання, хрышчэння, адпявання, а ў час праваслаўных святаў -- урачыстыя службы.**

**НА ЗДЫМКУ: у час службы.**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА.**

**АДРОДЖАНЫ ІХ ІМЁНЫ**

# БЕЛАРУСКІЯ АХВЯРЫ Ў ЯКУЦІІ

Часопіс "Чолбон" (у перакладзе з якуцкай -- "Мілавіца"), што выдаецца на якуцкай мове ў Рэспубліцы Саха, пачынаючы з 10 нумара за 1990 год, друкуе спісы асоб, рэпрэсіраваных у 1930--1950-я гады, а ў 1988 годзе рэабілітаваных. У сціслай інфармацыі падаюцца прозвішча, імя, імя па бацьку, год нараджэння, месца нараджэння, нацыянальнасць, партыйнасць, дзень, месяц, год, месца зняволення.

Вядомы мінскі краязнаўца Алесь Баркоўскі, пэўная частка жыцця якога звязана і з Якуціяй, уважліва прачытаў публікацыі спісаў, адабраў тыя біяграфічныя нататкі, што распавядаюць пра нашых землякоў, і пераклаў на беларускую мову. Там-сям сустракаецца і наступная падказка да вызначэння нацыянальнасці: "полька", "паляк". Ці як месца нараджэння "Польшча". Але і носьбітаў польскай нацыянальнасці ўключыў перакладчык у беларускую публікацыю спіса рэпрэсіраваных. Найперш таму, што ахвярамі маглі стаць ураджэнцы этнічнай Беларусі, якія не ўсведамлялі сябе беларусамі. Да таго ж, публікацыю ў якуцкім часопісе можна разглядаць і як адпраўную кропку для росшукаў краязнаўцаў, а таксама для родных і блізкіх рэпрэсіраваных.

Беларусы, як і іншанацыянальныя ўраджэнцы нашай Айчыны, патраплялі ў жорны сталінскіх рэпрэсій па ўсёй прасторы Савецкага Саюза, а то і за яго межамі. І часам звесткі пра пакуты нашых землякоў не згубіліся, хаваюцца ў таемных "скляпеннях" цяпер ужо іншанацыянальных фарміраванняў дзяржбяспекі. Ды не толькі... Вось ужо і публікацыі з'яўляюцца, як, прыкладам, у часопісе "Чолбон". Хацелася б, как яны не прамільгнулі не заўважанымі для беларускага чытача. Магчыма, публікацыя, падрыхтаваная Алесем Баркоўскім, падштурхне да шчырай руплівасці ў стварэнні ўсебеларускага мартыралога і іншых нашых суродзічаў -- з Сібіры і Сярэдняй Азіі, з Далёкага Усходу і іншых прастораў былога Саюза.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

**1990 год**

**N 10**

**АЗАРОНАК Зміцер Цітавіч, 1884 г. н., Магілёўская губерня, беспартыйны, рускі, 18.09.1930 г., Ленскі раён.**

**БАНКОЎСКАЯ Марыя Аляксандраўна, 1892 г. н., Польшча, полька, беспартыйная, 15.02.1938 г., Якуцк.**

**БЯЛЬКЕВІЧ Нікaнор Іванавіч, 1882 г. н., Беларусь, беларус, беспартыйны, 20.01.1938 г., Алданскі раён.**

**N 11**

**БУРАК Сцяпан Трафімавіч, 1898 г. н., Беларусь, беларус, беспартыйны, 28.12.1937 г., Алданскі раён.**

**БУРСКІ Уладзімір Людвігавіч, 1904 г. н., Магілёўская вобласць, беларус, беспартыйны, 28.12.1932 г., Алданскі раён.**

**ВАСІЛЕНКА Міхаіл Андрэевіч, 1883 г. н., Беларусь, беларус, беспартыйны, 5.01.1938 г., Алданскі раён.**

**ВЯРЫГА Мар'ян Дзяменцьевіч, 1897 г. н., Беларусь, беларус, беспартыйны, 5.01.1938 г., Алданскі раён.**

**ВЕРАС Аляксандр Лаўрэнцьевіч, 1900 г. н., Беларусь, беспартыйны, 17.05.1931 г., Алданскі раён.**

**N 12**

**ВІНАГРАДАЎ Барыс Генрыхавіч, 1888 г. н., Польшча, яўрэй, беспартыйны, 7.01.1938 г., г. Якуцк.**

**ГАРТМАН Бернард Маркусавіч, 1908 г. н., Польшча, яўрэй, беспартыйны, 25.06.1941 г., Алданскі раён.**

**ГЕГЕНЯ Кастусь Сямёнавіч, 1903 г. н., Польшча, паляк, беспартыйны, 30.12.1937 г., Алданскі раён.**

**ГОЕЎ Аляксандр Яўстаф'евіч, 1916 г. н., Смаленская вобласць, рускі, беспартыйны, 26.11.1941 г., калонія N 3.**

**1991 год**

**N 1**

**ДАБРАВОЛЬСКІ-ДУМБОЎСКІ Уладзімір Якаўлевіч, 1897 г. н., Польшча, паляк, беспартыйны, 25.11. 1937 г., Алданская турма.**

**ДУБІН Лука Дзямідавіч, 1899 г. н., Беларусь, беларус, беспартыйны, 27.12.1937 г., Алданскі раён.**

**ДУБРОЎСКІ Іван Адамавіч, 1887 г. н., рускі, беспартыйны, снежань, 1931 г., Алданскі раён.**

**ЯЛАНСКІ Андрэй Іванавіч, 1903 г. н., Беларусь, рускі, кандыдат у члены ВКП(б), 27.03.1931 г., Алданскі раён.**

**ЕСЬМАН Васіль Васільевіч, 1895 г. н., Беларусь, беларус, беспартыйны, 27.10.1937 г., Алданскі раён.**

**ЗАБЕЛА Хведар Емяльянавіч, 1909 г. н., Польшча, паляк, беспартыйны, 17.10.1937 г., Алданскі раён.**

**N 2**

**ЗАКРЫЖЭЎСКІ Іван Паўлавіч, 1900 г. н., Польшча, паляк, беспартыйны, 8.03.1938 г., Якуцк.**

**ЗАЛІВІН Міхаіл Васільевіч, 1897 г. н., Беларусь, рускі, беспартыйны, 10.12.1941 г., Алданскі раён.**

**ЗАПАСАЎ Сцяпан Дзям'янавіч, 1904 г. н., Польшча, паляк, беспартыйны, 16.12.1938 г., Ленскі раён.**

**ЗЯНКОВІЧ Канстанцін Іванавіч, 1900 г. н., БССР, беларус, беспартыйны, 17.05.1931 г., г. Алдан.**

**КАМІНСКІ Юзаф Янавіч, 1904 г. н., Польшча, паляк, беспартыйны, 18.07.1942 г., Алдан.**

**КАНДЫБОВІЧ Антон Пракопавіч, 1892 г. н., Беларуская ССР, рускі, беспартыйны, 22.09.1937 г., г. Якуцк.**

**КАЮКАЛА Якаў Хведаравіч, 1898 г. н., Беларуская ССР, беларус, беспартыйны, 17.09.1937 г., г. Якуцк.**

**КВІЦІНСКІ Апалінарый Бенядзіктавіч, 1886 г. н., Беларуская ССР, паляк, беспартыйны, 21.01.1938 г., Алданскі раён.**

**КІРЫЧУК Гардзей Рыгоравіч, 1874 г. н., Чарнігаўская губерня, рускі, беспартыйны, 20.11.1937 г., Алданскі раён.**

**КАЗЛОЎСКІ Антон Вікенцьевіч, 1891 г. н., Беларуская вобласць, беларус, беспартыйны, 27.02.1937 г., Алданскі раён.**

**КАЗЛОЎСКІ Пётр Вікенцьевіч, 1907 г. н., Польшча, беларус, беспартыйны, 15.12.1937 г., Алданскі раён.**

**(Працяг будзе).**

# ТАЛЕНТ — ГЭТА ЦЯЖКАЯ ПРАЦА

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Я ведаю толькі, што мастацтва -- гэта цяжкая праца, а талент -- рэч эфемерная. Пакуль ён не праявіўся ў карціне мастака ці ў ролі акцёра, яго нібы і не існуе. Я заўсёды падкрэсліваю, што дзеля дасягнення пэўнай вышыні ў мастацтве трэба працаваць 26 гадзін у суткі.

*-- Як, на вашу думку, ці не зменшылася цікавасць моладзі да мастацтва ў апошнія гады?*

-- Мне здаецца, што моладзь па-ранейшаму імкнецца да мастацтва. Нават калі меркаваць па конкурсу ў акадэмію, людзей сюды прыходзіць цяпер не менш, чым раней. Але ў нас працуе адборачная камісія, якая можа дапусціць ці не да экзаменаў. Гэта своеасаблівае сіта, праз якое праходзяць далёка не ўсе жадаючыя.

Такім чынам мы знізілі колькасць паступаючых. Але колькасць жадаючых трапіць у нашу акадэмію не зменшылася. Таму лічу, што цікавасць маладых людзей да тэатральнага, выяўленчага, кінамастацтва не зменшылася.

*-- Я думаю, не кожнаму зразумела тое, што ў наш складаны час многія і многія людзі знаходзяць сілы і жаданне займацца мастацтвам.*

-- Ведаеце, як бы блага народ ні жыў матэрыяльна, гэта яшчэ не сведчыць, што ён страціў свае пачуцці, сваю душу. Мастацтва і ёсць выяўленне душы народа, і адлюстроўваецца яна ў творах таленавітых людзей, якія з'яўляюцца найбольш яркімі яго прадстаўнікамі.

Сёння мы не можам сказаць, што страцілі канчаткова духоўнасць грамадства, таму і цікавасць да мастацтва не знікае, а ў пэўных накірунках і пашыраецца.

Калі ж звярнуцца да гісторыі, то бачна: не заўсёды ўзровень жыцця вызначаў узровень мастацтва. Часта адбывалася, што ў складаныя, пераломныя моманты чалавецтвам ствараліся яркія, вызначальныя ўзоры мастацтва. Іншая справа, што кожны час адкладвае на мастацтве адбітак сваіх праблем. Але яны не могуць знішчыць імкнення да выяўлення і сцвярджэння ідэалаў свайго часу. Сучасная моладзь нават больш інтэлектуальна падрыхтаваная, больш інфармаваная. Мне здаецца, што сённяшнія выпускнікі Акадэміі мастацтваў прафесійна вышэйшыя за сваіх папярэднікаў. Мы рыхтуем выставу, прысвечаную 50-годдзю Акадэміі мастацтваў. Прадставіць на ёй збіраемся як творы нашых выпускнікоў розных пакаленняў, так і выкладчыкаў. Калісьці мы ўжо арганізоўвалі такую выставу да 40-годдзя нашай установы. І трэба сказаць, што работы, створаныя 20 і больш гадоў таму, не вытрымлівалі канкурэнцыі з творамі апошніх гадоў. Гэта сведчанне таго, што з цягам часу расце патэнцыял як выкладчыкаў, так і студэнтаў. Так што акадэмія развіваецца. Думаю, што выстава да 50-годдзя акадэміі пацвердзіць тое ж. Наогул, кожнае пакаленне нясе з сабой свае рысы, нешта страчвае, а нешта знаходзіць сваё. Свет, мне здаецца, наогул існуе таму, што ў ім ёсць пэўная ўзважанасць у бок лепшага.

*-- У Акадэміі мастацтваў працуюць знаныя мастакі, рэжысёры, акцёры. Аднак яны наўрад ці атрымліваюць за сваю працу дастойную зарплату...*

-- Гэта праблема звязана ў першую чаргу са стаўленнем дзяржавы да адукацыі, навукі, мастацтва і культуры. А наша акадэмія з'яўляецца адлюстраваннем праблем як адукацыі, так і мастацтва, культуры.

Я магу назваць цэлы шэраг выдатных людзей нашага часу, якія працуюць тут. Сапраўды, гэта рэдкія таленавітыя людзі. А талент, хоць і быў заўсёды рэдкасцю, аднак яго амаль ніколі не берaглі.

А што тычыцца зарплаты выкладчыкаў, то тут няма пра што і гаварыць, бо агульнавядома: самы нізкі яе ўзровень у сферы культуры і адукацыі. Таму я нярэдка чую ад нашых выкладчыкаў, што працуюць яны не за грошы, а з грамадзянскіх меркаванняў і выкладчыцкую працу лічаць сваім абавязкам. Сапраўды, калі не яны, дык хто? Хаця ўсе разумеюць, што так быць не павінна.

*-- Агульнавядома, што мастацкая адукацыя патрабуе вялікіх матэрыяльных затрат...*

-- Так. Наш навучальны працэс будуецца ў асноўным на практычнай працы. Нельга навучыць творчасці на словах ці па падручніках. Студэнты павінны ствараць спектаклі, фільмы, скульптуры, карціны, мадэлі адзення, мэблю і многае-многае іншае. А гэта творчая, стваральная праца патрабуе сур'ёзнага як матэрыяльнага, так і тэхнічнага забеспячэння. І калі ўлічыць, што мы рыхтуем творцаў па 14 спецыяльнасцях і 41 спецыялізацыі і практычна амаль не атрымліваем фінансавай падтрымкі на гэтыя мэты, то лёгка ўявіць кола нашых праблем.

*-- Ці з'яўляюцца цяпер новыя аддзяленні ў акадэміі?*

-- За апошнія 5 гадоў у нас з'явілася шмат новага. Мы пачалі рыхтаваць спецыялістаў па кінамастацтву -- рэжысёраў дакументальнага і мастацкага кіно, кінааператараў, мастакоў кіно. Я разумею, што ў мастацтве кіно сёння шмат цяжкасцей. Аднак трэба прызнаць: у беларускім кінамастацтве сёння няма моладзі, і ніхто, акрамя нас, яе не падрыхтуе. Для тэлебачання ў акадэміі ўзнавілі падрыхтоўку рэжысёраў, пачалі навучанне аператараў, гукарэжысёраў.

Мы адкрылі кафедру мадэліравання адзення і мастацкага тэкстылю. Ёсць у нас курс мастакоў драматычнага тэатра, упершыню на Беларусі набралі курс мастакоў тэатра лялек.

Сёння востра стаіць праблема кадраў па мастацтвазнаўству і тэатразнаўству. Ніколі сур'ёзна гэтай праблемай на Беларусі ніхто не займаўся. Завочная форма навучання па гэтых накірунках, якая вялася ў акадэміі, станоўчых вынікаў не дала. Таму ўпершыню ў рэспубліцы некалькі гадоў назад мы набралі стацыянарныя курсы па спецыяльнасцях тэатразнаўства і мастацтвазнаўства. Праўда, гэты захад трэба было здзейсніць 10, 20, а можа і 30 гадоў таму, і такога становішча, як сёння з мастацтва- і тэатразнаўствам у нас не было б. А ўзровень апошняга значна ўплывае на стан і развіццё мастацтва.

*-- Цяжка ўявіць, што Акадэміі мастацтваў хапае сёння невялікага будынка.*

-- Даўно гаворыцца пра неабходнасць узвядзення новых будынкаў для акадэміі, якія адпавядалі б сістэме мастацкай адукацыі, бо сёння нам даводзіцца выхоўваць прафесіяналаў у непрафесійных умовах. Мяркуйце самі: цяперашні будынак быў перададзены нашай установе у 60-я гады, а будаваўся ён як лазарэт, потым тут знаходзіўся фінансавы тэхнікум, але і яго яшчэ ў тыя гады гэтыя памяшканні не задаволілі. Ужо адно тое, што наша ВНУ -- адзіная ў дзяржаве, для якой не быў пабудаваны прафесійны навучальны комплекс, сведчыць аб адносінах улад да культуры і мастацтва.

Праўда, у 1990 годзе выйшла пастанова Савета Міністраў аб узвядзенні комплексу будынкаў па праспекце Машэрава. За гэты час Белпраектам зроблены праект, рабочыя чарцяжы першай чаргі акадэмічнага гарадка. Плануецца пабудаваць не толькі навучальна-адукацыйны цэнтр з адпаведнымі творчымі майстэрнямі і тэхналагічнай базай, але і культурны цэнтр з выставачнымі заламі, музеем. Мы атрымалі права на валоданне 27 гектарамі зямлі, і будаўніцтва павінна было распачацца яшчэ летась. Аднак такія светлыя надзеі не збыліся, і цяпер цяжка спадзявацца, што ў хуткім часе гэта адбудзецца. Нашай дзяржаве, відаць, няма справы да Акадэміі мастацтваў.

*-- Васіль Пятровіч, цяпер ідуць спрэчкі па праблеме беларусізацыі ў сістэме адукацыі. Як вы вырашаеце гэтае пытанне?*

-- Што тычыцца Акадэміі мастацтваў, то тут мы імкнемся выконваць праграму пераводу навучання на беларускую мову, прынятую каля 6 гадоў таму назад. У нас былі арганізаваны бясплатныя курсы беларускай мовы для нашых супрацоўнікаў. Аднак і сёння не кожны выкладчык можа чытаць лекцыі на беларускай мове. І гэта трэба разумець.

Мы вымушаны былі ўвесці на першых курсах для сваіх студэнтаў выкладанне беларускай мовы, гісторыі і літаратуры, бо ў школах не вывучаюць гэтыя дысцыпліны на неабходным узроўні. І, канешне, нашы студэнты вывучаюць беларускае мастацтва, фальклор. Але ж Акадэмія мастацтваў, не можа заставацца востравам у акіяне са сваімі парадкамі на нас уздзейнічае не лепшым чынам навакольны свет.

Раней лічылася, што не загаворыць на той мове мужык, пакуль на ёй не загаворыць пан. Пакуль чыноўнікі ўсіх рангаў не пачнуць карыстацца хаця б на працы беларускай мовай, няма чаго чакаць ад народа. Ну а калі дзяржаўныя дзеячы вядуць барацьбу супраць сваёй жа дзяржаўнай мовы, нічога слушнага ў гэтым накірунку чакаць не даводзіцца.

*-- Васіль Пятровіч, як і калі вы збіраецеся адзначыць 50-годдзе акадэміі?*

-- Наш юбілей -- гэта не ўнутранае свята, гэта свята ўсяго беларускага мастацтва. І мы лічым, што яно павінна быць праведзена на дзяржаўным узроўні. Рыхтавацца мы пачалі ўжо больш года назад. Здадзены ў выдавецтва "Беларусь" альбом аб акадэміі аб'ёмам 35 друкаваных аркушаў, і спадзяемся, што да юбілею ён выйдзе з друку. Выпусцілі тыражом 10 тысяч экземпляраў праспекты аб акадэміі (дарэчы, гэта першая друкаваная прадукцыя аб акадэміі за 50 год).

Кафедры рыхтуюць сувенірную прадукцыю для памятных падарункаў гасцям. У Палацы мастацтва будзе адкрыта, як я ўжо казаў, вялікая рэтраспектыўная выстава студэнцкіх прац і твораў выкладчыкаў. Будуць праводзіцца канферэнцыі, персанальныя выставы. Кафедра кінатэлемастацтва распачала працу над відэафільмам аб дзейнасці кожнай кафедры, плануецца стварэнне тэлефільма пра акадэмію. Урачыстае пасяджэнне запланавана на 17 лістапада ў Белдзяржфілармоніі.

Мы хочам свята правесці годна і прыгожа і спадзяемся, што ў гэтым нам дапамогуць не толькі дзяржава, але і фундатары.

**Гутарку вяла Алена СПАСЮК.**

*СВЕТ МУЗЫКІ — У СВЕЦЕ ЧАЛАВЕКА*

# ДЭБЮТ І СЕНСАЦЫЯ




**А**НСАМБЛЬ педагогаў Мінскага музычнага вучылішча імя М.Глінкі яшчэ зусім малады. Крыху больш за два гады прайшло з таго часу, як нарадзіўся гэты творчы калектыў, які складаецца з васьмі таленавітых педагогаў-музыкантаў. Усе яны любяць і цэняць мастацтва сумеснай ігры, што займае значнае месца ў дзейнасці любога музыканта-выканаўцы ці педагога. Аднак значэнне калектыўнага музіцыравання ўсё яшчэ недаацэньваецца.

Хто ж яны, артысты ансамбля, і для чаго аб'ядналіся ў творчы калектыў? Уяўляецца, што гэтыя пытанні могуць зацікавіць некаторых чытачоў. Аксана Бурава віртуозна валодае цымбаламі; Наталля Мяркулава-Налівайка дасканала іграе на домры і мандаліне; Уладзімір Гурба-Новік -- бліскучы баяніст, тонкі і яркі выканаўца як у сольнай і ансамблевай, так і ў акампаніятарскай дзейнасці; Бенігна Мацкевіч -- найвопытнейшы ансамбліст, валодае не толькі домрай-альт, але ўсімі разнавіднасцямі гэтага сямейства музычных інструментаў, да таго ж мае выразны, прыгожы вакальны голас; Тамара Панасенка -- баяністка, але ў ансамблі выконвае партыю балалайкі-секунды дастаткова ўпэўнена і перакануча; Ганна Полесава -- цымбалістка, але, можна сказаць, прафесіянальна спраўляецца з многімі ўдарнымі інструментамі, выконвае сваю партыю тэмпераментна, цэментуючы метрарытмічную аснову актэта; Валерый Башура -- баяніст, нягледзячы на сваю вельмі клапатлівую пасаду. Ён дырэктар музычнага вучылішча, але знаходзіць час, каб іграць на кантрабасе, ствараючы неабходную псіхалагічную атмасферу ў калектыве. І, нарэшце, Яраслаў Валасюк -- вопытны і living разнабакова адораны музыкант-выканаўца, які валодае многімі музычнымі інструментамі, у мінулым кіраўнік прафесійнага камернага ансамбля Беларускага тэлебачання і радыё, знаўца ансамблевага рэпертуару, аўтар многіх перакладанняў і аранжыровак, кіраўнік і душа ансамбля.

На сённяшні час, калі гавораць аб ансамблевым выканаўстве, заўсёды падкрэсліваюць, што жанр перажывае эпоху адраджэння, росквіту. І гэта праўда. У навучальных установах ствараюцца аркестры, ансамблі. Музыканты, якія цэняць сур'ёзную музыку, імкнуцца да аб'яднання, і на тое ёсць многа прычын. Назавём галоўныя.

Ансамбль -- гэта перш за ўсё творчы калектыў, брацтва музыкантаў, але сёння яно становіцца прывідным, эфемерным. Адбываецца дэвальвацыя творчай працы. Адукаваны, інтэлігентны чалавек заўсёды імкнуўся да прыгажосці і гармоніі і знаходзіў іх, узбагачаючыся духоўна, інтэлектуальна, эмацыянальна, дзякуючы пастаяннай сувязі з Вялікай Музыкай. Сёння баль правіць музыка (калі можна яе назваць музыкай), якую падносяць шумныя маладзёжныя групы і ансамблі, што не абцяжарваюць сябе клопатамі не толькі аб узвышэнні душы чалавека, але нават пра змест тэкстаў выконваемых песень. У іх звышзадача -- любой цаной забаўляць.

Другая прычына актывізацыі калектыўных форм музіцыравання -- гэта праблема, пастаўленая на парадак дня самім жыццём, сутнасць яе -- расшырэнне творчай палітры педагогаў.

Педагогіка і выкананне заўсёды суседнічалі ў творчай дзейнасці выкладчыкаў, дапаўнялі адно аднаго. Музыканты --людзі свайго часу, што спрабуюць зразумець яго і працягнуць ніць сувязі паміж мінулым і будучыняй. З такіх музыкантаў складаецца ансамбль народных інструментаў Мінскага музычнага вучылішча. У калектыве, гаворачы балетнай мовай, няма статыстаў, усе салісты. І яшчэ адно. Назва -- ансамбль народных інструментаў наўрад ці правамерная. Цымбалы, домры, мандаліны, балалайкі, гітары, баяны, акардэоны даўно атрымалі статус акадэмічных інструментаў, мы па інерцыі яшчэ, відавочна, доўга будзем адносіць іх да народных. Дарэчы, усе акадэмічныя інструменты некалі былі народнымі. Зразумела, назва народныя музычныя інструменты ганаровая, але па сутнасці яны сталі акадэмічнымі.

... І вось на філарманічнай сцэне дэбют актэта, і адразу можна сказаць -- сенсацыя. Слухачы захоплены і прыемна здзіўлены. Чым жа? Перш за ўсё незвычайнай цеплынёй, пранікнёнасцю гучання, артыстычнай свабодай, вялікім і разнастайным рэпертуарам. У спалучэнні з высокім тэхнічным майстэрствам названыя якасці надаюць выканальніцкай манеры актэта закончанасць, маштабнасць, гарманічнасць. Свае выступленні на сцэне "альма-матэр", у навучальных установах, на многіх прадпрыемствах ансамбль звычайна пачынае Уверцюрай беларускага кампазітара Уладзіміра Прохарава. Так было і на філарманічнай эстрадзе. Яна як бы ўводзіць слухачоў у канцэртную атмасферу і стварае святочны настрой. "Пасвячэнне" П.Чакалава з кінафільма "На радзіме В.Шукшына" кантрастуе з першым (тут пераважае сфера тужлівага філасофскага роздуму). Захапляе выкарыстанне спеваў мармаранда (з закрытым ротам) удзельнікаў ансамбля разам з ігрой на інструменце і выразны вакаліз Бенігны Мацкевіч. Праўда, пачатак быў крыху нясмелым, але чыстае выкананне, шчымлівая інтанацыя даставілі слухачам сапраўднае задавальненне. Педагогі-музыканты не толькі самі ўдасканальваюць сваё выканаўчае майстэрства, але і прыцягваюць лепшых выхаванцаў да сцэнічнай практыкі. Так, навучэнка III курса Тацяна Іванова бліскуча выканала на балалайцы ў суправаджэнні ансамбля "Рускія напевы" ўкраінскага кампазітара Мікалая Рызоля.

Варта асабліва адзначыць ролю актэта ў якасці акампаніятара. Разуменне прыроды выканаўчай манеры саліста, чуйнасць, гібкасць, поўнае суперажыванне і адзінае дыханне з салістам (ніколі, ні пры якіх абставінах не канфліктуе з тымі, каго суправаджае), усімі сіламі імкнецца дапамагчы ў тых выпадках, калі ў саліста што-небудзь не атрымліваецца.

З вялікай і разнастайнай праграмай выступіў саліст ДАВТа, уладальнік моцнага, прыгожага і выразнага голасу (лірыка-драматычны тэнар) Аляксандр Тузлукоў. У яго рэпертуары былі прадстаўлены беларускія, рускія народныя песні, а таксама папулярныя неапалітанскія песні.

Цудоўна выканала цымбалістка Аксана Бурава канцэртна-віртуозную п'есу "Хора" чэшскага кампазітара (украінскага паходжання) Стэфана Рака. "Сярэбраныя" струны яе цымбал расказалі слухачам аб самым патаемным. Салістка ярка, палымяна, без націску музіцыравала, нягледзячы на тэхнічныя цяжкасці. І зала літаральна ўзарвалася шквалам апладысментаў.

Сапраўдную ансамблевую зладжанасць актэт прадэманстраваў у Пасакаліі латышскага кампазітара Люцыі Гаруты. Маляўнічая насычанасць тэмбраў, цеплыня, пранікнёнасць па-сапраўднаму заварожваюць і напамінаюць аб існаванні вечных каштоўнасцей.

Народная музыка -- гэта здабытак і гонар народа, які нарадзіў яе. Творчы почырк ансамбля бліснуў яшчэ адной гранню. Аўтэнтычнае выкананне музыкі, якая звычайна натуральна і цікава гучыць у аркестрах і ансамблях неапалітанскага складу: "Марш мандаліністаў" Мецэкапа, "Венецыянская баркарола" Чыпаліні, "Іспанская гітара" Гранозіа -- такім складам немагчымае, але ў актэце знайшлі выйсце. Я.Валасюк і Н.Мяркулава-Налівайка, якія добра валодаюць мандалінамі (дарэчы, гэты інструмент мае шматвяковыя традыцыі ў Беларусі), выканалі галоўныя партыі менавіта на мандалінах, у выніку чаго неапалітанскі дух быў захаваны.

Самыя добрыя і сардэчныя словы хочацца сказаць пра заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь, выдатнага спевака Івана Тамашэвіча. Сцэна -- гэта форма яго быцця. Ён сцэнічны, абаяльны, музыкальны. Уладальнік цёплага, аксамітнага, багатага тэмбрамі лірыка-драматычнага барытона, спявак, што б ён ні выконваў -- класіку, рамансы, народныя песні, -- заўсёды знаходзіцца ў вобразе, ад пачатку да канца прасочвае яго развіццё, да таго ж дэманструючы сапраўднае вакальнае майстэрства. Усе выкананыя ім творы: "Песня пра блыху" Бетховена, "Серанада Дон Жуана" Чайкоўскага, старадаўні раманс Г.Талстой "Ціха ўсё" , руская народная песня "Пад дугой званочак пяе" -- былі пададзены шчыра, усё пераконвала пранікнёнасцю і паэтычнасцю пачуццяў. А песня жартаўлівага характару "Вуліца, вуліца" А.Дзюбюка па патрабаванню слухачоў была паўторана, і пасля яшчэ доўга спевака не адпускалі са сцэны. У гэтым творы спеваком было паказана голасам такое багацце настрояў і адценняў, што смела можна гаварыць аб самабытнай, непаўторнай інтэрпрэтацыі выдатнай песні.

Творчая дзейнасць ансамбля, несумненна, садзейнічае актывізацыі музычнага жыцця нашай сталіцы, уздыму эстэтычнага выхавання народа, асабліва моладзі, стварае магчымасць быць бліжэй да самых хвалюючых праблем быцця. Калі б знайшліся мецэнаты, якія змаглі б падтрымаць матэрыяльна гэты мастацкі калектыў, стаўшы яго "хроснымі бацькамі", то атрымалі б ад ансамбля каштоўнасці невымерныя, не пераводзімыя ні ў якую СКВ.

Святочная атмасфера, што панавала ў камернай зале філармоніі, -- сведчанне вялікай творчай работы ансамбля педагогаў Мінскага музычнага вучылішча і вялікага значэння свету музыкі ў свеце чалавека.

**Міхаіл СОЛАПАЎ,**
**прафесар Беларускай акадэміі музыкі,**
**заслужаны дзеяч мастацтваў**
**Рэспублікі Беларусь.**

# СВЕТЛАЙ ДУШЫ ЧАЛАВЕК

**(Заканчэнне.**
**Пачатак на 1-й стар.).**

А напісаў яго і папрасіў пры нагодзе адвезці ў сталіцу, кінуць у паштовую скрыню адзін з калег. Так і завёз пісьменнік у Мінск на сябе самога прыгавор.

Ды ўсё адно Пухавічы засталіся для Алеся Восіпавіча светлым успамінам. Такі, відаць, ужо быў Пальчэўскі чалавек. Добры, працавіты, інтэлігентны,. Дарэчы, усе, хто яго ведаў, якраз і падкрэсліваюць надзвычайную інтэлігентнасць. Кажуць, што яна прыходзіць да чалавека як мінімум у чацвёртым пакаленні. Магчыма, і так... Тады Пальчэўскі -- выключэнне. Нарадзіўся ён у вялікай сялянскай сям'і, дзе было 11 (!) дзяцей. З маленства працаваў на зямлі, дапамагаў бацькам. А тыя ўжо стараліся дзетак (асабліва -- сыноў) вывучыць. І зярняты навукі патрапілі на ўрадлівую глебу. З маленства Алесь прыахвоціўся да кніг. Чытаў і вучыў на памяць вершы Купалы, Коласа, Багдановіча, Буйло. У 1925 годзе паступіў на рабфак БДУ (па рэкамендацыі Уздзенскага райана -- "за актыўны ўдзел у ліквідацыі непісьменнасці сялян, за распаўсюджванне друкаванага слова"). У 1931-м закончыў педагагічны універсітэт (творчы цыкл). Працаваў у часопісах (аж да трагічнага 1936). Пісаў вершы, апавяданні. Творчы рост Алеся Пальчэўскага набываў сілу і хуткасць. Дапамагала веданне вясковага жыцця, сялянская працавітасць. Старэйшыя пісьменнікі заўважылі наробкі маладога таварыша па творчаму цэху. Ды абарвалася, лічы, усё...

Пальчэўскі не скарыўся лёсу. І ў час першага тэрміну зняволення. І пасля, калі быў арыштаваны ў 1949-м. Думаў пра літаратуру, вышукваў у памяці і ў жыцці сюжэты. Таму, відаць, і лёгка (а можа гэта толькі вонкавая лёгкасць?) прафесійны, лічы, лесаруб ды яшчэ пілапраўінструментальшчык уключаецца ў літаратурны працэс, вярнуўшыся на Беларусь назаўжды. Не любіў Алесь Восіпавіч скардзіцца на жыццё. І пра нялёгкія гады ўспамінаў спакойна: "Яшчэ авалодаў адной прафесіяй: навучыўся рубіць дамы не толькі ў просты вугал, але і ў "замок". Два магазіны, лазня, некалькі жылых дамоў у райцэнтры, сіласныя вежы, канюшні ў калгасах -- вось будынкі, дзе ёсць частачка маёй працы". Горкія радкі! Колькі б мог напісаць за гэтыя гулагаўскія гады! А для яго, як па ўзросту, то ж лепшыя гады жыцця! Ды Алесь Восіпавіч не любіў скардзіцца на жыццё. Казаў, што яму пашанцавала: застаўся жывым. А колькі ж сяброў-лагернікаў (і якіх людзей -- вайскоўцаў, пісьменнікаў, артыстаў!) палегла ў ГУЛАГу! Таму і радаваўся жыццю, працаваў.

Адна за другой прыходзілі да чытача кнігі апавяданняў і аповесцяў -- "Беражанкі", "Родныя берагі", "Ты не адзін", "Данеўцы -- нашы знаёмыя"... Поруч з Алесем Восіпавічам працавала і другая яго жонка (падобныя лёсы звялі іх у лагеры) -- Тамара Цулукідзе, грузінская актрыса, пісьменніца. Разам пераклалі з грузінскай мовы раман П.Данжашвілі "На Алазані".

Перажыўшы Алеся Восіпавіча на некалькі гадоў, Тамара Рыгораўна шмат зрабіла для памяці пісьменніка. На радзіме Пальчэўскага -- у вёсцы Прусінава, на доме, дзе нарадзіўся будучы творца, устаноўлена мемарыяльная дошка. А вось новых перавыданняў твораў, на жаль, няма. А гэта ж хіба не галоўнае -- кнігі, якія і памяць, і клопат не толькі пра дзень учарашні, але і пра будучыню.

**Георгій ПАЛЬЧЭЎСКІ,**
**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

**Згуртаванне наваградцаў свету, выдавецкі цэнтр "Бацькаўшчына" смуткуюць і выказваюць спачуванне родным і блізкім, сябрам Федэральнай Рады Згуртавання беларусаў Аўстраліі з нагоды смерці пісьменніка, мастака-ўмельца, адданага Беларусі патрыёта Уладзіміра ШНЭКА, які пажадаў, каб ягоны прах быў развеяны над роднай Случчу.**

**Хай пухам будзе яму беларуская зямелька!**

"КВЕТКІ ПРАВІНЦЫІ".

УРАЖАННІ АД КІНАПРАГЛЯДУ

# ПАЙДУ ЯШЧЭ РАЗ

15 ЛЮТАГА ў Доме літаратара адбыўся адзін з прэм'ерных паказаў фільма "Кветкі правінцыі", створанага паводле аднайменнага рамана Георгія Марчука.

Фільм зняты летась на кінастудыі "Беларусьфільм". Пра мастацкія вартасці і хібы стужкі хай скажуць прафесійныя кіназнаўцы. Я ж, шэраговы глядач, адзначу, што даўно "Беларусьфільм" не дэманстраваў такіх нефальшывых, незанудлівых, далікатных і густоўных твораў. Гэта вельмі прыгожае і добрае кіно. Гісторыя пра паспалітага хлопца з палескага мястэчка. Сталенне яго прыпадае на канец 50-х -- 60-я гады. Думаю, тыя з гледачоў, хто падыходзяць да сваіх пяцідзесяці ці ўжо перакрочылі іх, адчулі ў час сеанса пяшчотную настальгію па гадах ранняга юнацтва. У значнай ступені гэтаму спрыяў музычны фон карціны. Цэлае пакаленне вырасла пад песні "Взвейтесь кострами, синие ночи!", пра Алёшу, якому мама купіла "отличные галоши", пад "Речицкую лирическую" ды іншыя вельмі на той час папулярныя мелодыі, што гучаць у фільме. Але гэта, зразумела, не самае істотнае. Вось жа хлопец, спачатку падлетак, потым выпускнік школы і нарэшце малады спецыяліст з дыпломам, назірае жыццё, трапляючы ў розныя няпростыя абставіны, сталее, набіраючыся вопыту. Мушу сказаць, што назіранні ды жыццёвыя абставіны, што трапілі на экран, вельмі дакладныя і, напэўна, тыповыя. Кожны з маладых людзей у розных варыянтах, але праходзіць гэты шлях. Мала каго абмінула школьнае каханне, калі ўпотай на ўроках назіраеш прадмет свайго хвалявання (як прасвечваюць на сонцы яе вушкі ды завушнічкі на іх!). Мала хто не перажываў болю ад неразздзеленых пачуццяў. Тыповыя і "універсітэты" інтымнае навукі. І нарэшце надыходзіць час сутыкнуцца з маральнымі праблемамі. Што выбраць: спакусны цынізм ці прыстойнасць, слодыч помсты ці сцішанае прабачэнне...

Фільм, дзякаваць Богу, пазбаўлены нават ценю дыдактыкі. Тым не менш, хлопцы і паненкі, што глядзелі "Кветкі...", успомняць кінагероя ў той ці іншы момант жыцця, калі трапяць у падобнае становішча і калі трэба будзе рабіць выбар.

Глядзельная зала Дома літаратара была амаль поўная. Прыкладна трэцяя частка гледачоў складалася са школьнікаў старшых класаў звычайнай школы. Не магу сказаць пра ўзорнасць паводзінаў маладых асобаў, узгадаваных на "пэпсі". Трохі настроіў іх на жартлівы лад і сп. рэжысёр, які меўся быць са словам на пачатку прагляду. Але пачаўся фільм. Хі-хі неўпрыкмет сціхлі. Потым смех ізноў успыхваў там, дзе было дарэчы, але зрэдчас і недарэчы. Аднак ніводзін з прысутных не пайшоў з залы. Глядзелі і перажывалі, пераносілі сітуацыі на сябе. Потым, пасля прагляду і апладысментаў, калі пачалося абмеркаванне, частка маладых людзей усё ж сышла, але большасць з іх засталася, разважліва выслухаўшы і сп. Лецку, і паэта Зьніча, і ўсхваляваную сп. кіраўнічку фірмы. У працяг ужо выказанай думкі дадам, што розныя эпізоды будуць аднаўляцца ў свядомасці гэтых юнакоў і нібыта працягваць ім руку і падтрымліваць іх у складаных сітуацыях. Так будзе яшчэ і таму, што фільм вельмі прыгожа зняты. І яшчэ ён нейкі надта свой, наш. Ці ад таго, што чуеш знаёмыя гукі ў імёнах і назвах, ці ад палескіх краявідаў, а дзед кінагероя яшчэ й рэпліку кідае пра тое, як было тут за польскім часам. У канцы ж фільма раптам і вельмі гарманічна з'яўляецца аўтэнтычная беларуская мова -- у вершах, што муза паэзіі прамовіла Адасю -- герою карціны.

Я б назваў гэты фільм гуманным і мудрым. Для мяне, ва ўсялякім разе, параненага кіначарнотай-брыдотай і бездарнасцю, ён стаўся гаючаю вадою.

Падчас абмеркавання, калі сп. рэжысёр абураўся кінапалітыкай у нашай суверэннай краіне (фільм фінансаваўся вельмі слаба, зняты амаль на энтузіязме, а на беларускамоўныя копіі проста не хапіла грошай), казаў, што яму надакучыла гэтае жабрацтва, што сорамна перад здымачнай групай і што ён з'ездзе ў Амерыку, куды яго запрашаюць; дык вось, калі ён усё гэта гаварыў, пры апошніх словах некалькі юначых галасоў выгукнула: "Не ад'язджайце! Застаньцеся!". І я шчыра далучаюся да гэтых спантанных поклікаў. Хоць і шчыра спачуваю сп. рэжысёру.

Хто ж стварыў гэты доўгачаканы фільм? Вось склад творчай групы, як ён пададзены ў запрашальніку Дома літаратара. Аўтары сцэнарыя -- Георгі Марчук, Дзмітры Зайцаў; рэжысёр -- Дзмітры Зайцаў; аператар -- Уладзімір Спарышкоў; мастак -- Аляксандр Верашчагін; кампазітар -- Міхаіл Чакалін. У галоўнай ролі -- Вячаслаў Цітоў.

Калі дзе ў горадзе пабачу афішу "Кветкі правінцыі", дык пайду глядзець яшчэ раз...

**Зьміцер КАЛІСТРА.**

# КІСЯЛЁЎ ЗНАЁМЫ І НЕЗНАЁМЫ

У нарысе даследчык падкрэсліваў, што гісторыкі заўсёды павінны ўлічваць складанасць навакольнага асяроддзя, драматычнасць і трагічнасць лёсу К.Каліноўскага, таму што па сваіх поглядах ён намнога апярэдзіў сучаснікаў. Аўтар разглядае адносіны беларускага рэвалюцыянера да Варшаўскага нацыянальнага ўрада, да правых "чырвоных" і "белых" падчас паўстання. Ён аналізуе "Паўстанцкую інструкцыю", якую знайшлі зусім нядаўна ў Пецярбургу і Вільні. Яна была напісана і надрукавана ў розных рэдакцыях. Даследчык лічыць, што "дзякуючы таму, што ў паўстанні ўдзельнічалі рэвалюцыйныя дэмакраты ў Літве і Заходняй Беларусі, яно набыло характар шырокай народнай вайны супраць царызму і прыгонніцтва. Але гэта не было сялянскае паўстанне супраць памешчыкаў, як намагаюцца даказаць некаторыя гісторыкі".

Нельга поўнасцю пагадзіцца з аўтарам, што польскія памешчыкі далучыліся да паўстання, "каб перашкодзіць рэвалюцыйным дэмакратам накіраваць яго супраць панскіх сядзіб". Іх выступленні перш за ўсё звязаны з тым, што яны былі не задаволены палітыкай царызму ў так званым Паўночна-Заходнім краі і таму ішлі ў атрады паўстанцаў. У нарысе Г.Кісялёў не праводзіць дэталёвы аналіз апошніх твораў К.Каліноўскага, яго "Пісем з-пад шыбеніцы" і вершаў, якія беларускі змагар складаў у турме. Даследчык пакідае за сабой права прадоўжыць вывучэнне жыцця, дзейнасці і творчасці К.Каліноўскага як героя і правадыра беларускага, польскага і літоўскага народаў. Такі інтэрнацыяналізм зараз трохі бянтэжыць, але ў той час гэта было звычайнай з'явай.

Праз тры гады з'явілася новая кніга Г.Кісялёва "З думай пра Беларусь" (Мн., 1966). У ёй большасць друкаванага аб'ёму аддадзена даследаванню дзейнасці і творчасці К.Каліноўскага. Заўважым, што раней гэтыя нарысы і матэрыялы прайшлі апрабацыю ў літаратурна-публіцыстычных часопісах.

Аўтар сцвярджае, што першы нумар газеты "Мужыцкая праўда" выйшаў у чэрвені 1862 года, і робіць гэта вельмі доказна. Ён праводзіць лакалізацыю распаўсюджвання яе па раёнах, дзе дзейнічалі паўстанцкія атрады, і нават за іх межамі. Давялося даследчыку прагледзець шмат архіўных спраў, каб знайсці "лятучыя лісткі", якія так напалохалі царскіх жандараў і чыноўнікаў. А расійскі суд распраўляўся з чытачамі "Мужыцкай праўды" вельмі жорстка. Аднак яна даходзіла да сялян і майстравых Гродзенскай, Мінскай, Віленскай, Віцебскай губерняў, а калі гаварыць увогуле, то яе знаходзілі ва ўсіх кутках Паўночна-Заходняга краю і Польшчы (Царства Польскага).

Г.Кісялёў аналізуе і адмоўныя бакі, якія перашкаджалі распаўсюджванню газеты ва ўсходняй частцы Беларусі, асабліва на Магілёўшчыне. Гэта было звязана з непісьменнасцю сялян і з тым, што газета друкавалася лацінкай. "Тут газета іншы раз магла ўспрымацца як штосьці далёкае, чужое і нават панскае. Гэтаму садзейнічала часамі і няўмелая работа агітатараў з дваран", -- пісаў даследчык. Такі негатыўны аналіз раней адсутнічаў.

Аўтар заўважаў, што рэвалюцыйныя выданні знаходзілі сваіх чытачоў не толькі сярод сялян, але і дробных чыноўнікаў -- разначынцаў і рабочага люду. Рабочыя заводаў Храптовічаў у мястэчку Вішнева чыталі і хвалілі газету. Мураўёву-вешальніку давялося нават даць распараджэнні аб правядзенні вобыскаў у дзяржаўных установах, дзе былі знойдзены нумары "Мужыцкай праўды" і яшчэ выданні "Гутарка двух суседаў", "Гутарка старога дзеда", якія былі накіраваны супраць царызму. На гэта неяк мала звярнулі ўвагі рэцэнзенты кнігі.

Усе найбольш рэвалюцыйныя выданні і рукапісы, што былі ў той час, распаўсюджваліся разам з "Мужыцкай праўдай", яна дасягнула нават Лондана, дзе была заўважана і прыхільна сустрэта А.Герцэнам. Такая асаблівасць адзначана даследчыкам. Тыраж газеты, лічыць Г.Кісялёў, складаў 1 000 экземпляраў.

Кідаецца ў вочы, што назва гэтага нарыса "Так сейце ж, дзецюкі!.." узята з "Мужыцкай праўды" N 3 і пераклікаецца з назвай першай кнігі Г.Кісялёва "Сейбіты вечнага". Мусіць, такім чынам аўтар указаў на пераемнасць наступнага выдання.

У 80--90-х гадах Г.Кісялёў працягваў даследаваць у розных, самых нечаканых і цікавых аспектах дзейнасць беларускага змагара. Нагадаем артыкул вучонага "К.Каліноўскі і беларуская культура" (Радаводнае дрэва. Мн., 1994), у якім разглядаецца эвалюцыя поглядаў даследчыкаў на паўстанне 1863 года і на вялікага беларуса. Аўтар канстатуе, што "Каліноўскі -- заканамерная з'ява, неабходнае звяно ў гісторыі вызваленчага руху і культуры Беларусі..." "Каліноўскі -- роданачальнік сялянскай дэмакратыі Беларусі... Гэта і вызначае велізарную, фундаментальную ролю Каліноўскага не толькі ў гісторыі філасофскай і грамадска-палітычнай думкі, але і ўсёй культуры Беларусі". Аднак, на наш погляд, дарма ён яго робіць вучнем рускіх рэвалюцыйных дэмакратаў.

Даследчык уважліва разглядае літаратурны і паэтычны талент беларускага змагара, яго імкненне ўнесці ў беларускую народную лексіку рэвалюцыйны элемент. Падкрэсліваецца, што "друкаванае слова было заўсёды яго слабасцю", а таксама і любоў іменна да простай беларускай мовы, на якой пісаў "Яська-гаспадар з-пад Вільні". На гэтай мове, сцвярджаў беларускі змагар, павінны былі працаваць школы на Беларусі. Г.Кісялёў лічыць, што Каліноўскі выдатна валодаў народнымі гродзенскімі гаворкамі.

У гэтым юбілейным артыкуле арыгінальных "кісялёўскіх думак" вельмі мала. Ён падняў значны масіў беларускіх даследаванняў, якія тычацца гэтай праблемы і абагульніў іх у сваёй невялікай працы.

У другім падобным артыкуле ("Нёман", 1988, N 1) Г.Кісялёў імкнецца высветліць чалавечыя якасці К.Каліноўскага, яго знешні выгляд суровага чалавека, постаць змагара за народнае шчасце, феномен беларускага рэвалюцыйнага дэмакрата. Сучаснікі і гісторыкі называлі яго "Літоўскім Маратам", -- адзначаецца ў працах вучонага.

Зусім мэтазгодна, як гэта робіць Г.Кісялёў, лічыць час 60-х гадоў XIX стагоддзя на Беларусі "эпохай Каліноўскага", які быў і застанецца выдатным культурным дзеячам не толькі Беларусі, але і еўрапейскага маштабу.

У апошні час навукоўцы Беларусі высвятляюць спрэчнае пытанне, што датычыцца жыцця Каліноўскага, якое прыцягнула ўвагу Г.Кісялёва. У артыкуле "Каліноўскі знаёмы і незнаёмы" ("Полымя", 1993, N 6) ён павёў гаворку ў дыскусійным плане пра сапраўднае імя беларускага змагара за мужыцкую праўду. Яго імя па метрыцы Вікенцій (Вінцэнт) -- Канстанцін, як было прынята ў рыма-католікаў, але сярод сваякоў і сяброў, у паўстанцкіх атрадах і зараз мы ведаем яго імя Кастусь (Канстанцін). Аб гэтым пісаў Г. Кісялёў у сваёй кнізе "Героі і музы", дзе прывёў дакладны тэкст дыплома Санкт-Пецярбургскага універсітэта аб прысваенні Вікенцію Каліноўскаму навуковай ступені кандыдата праў.

Г.Кісялёў спрачаецца з іншымі даследчыкамі, якія, на яго думку, не разумеюць сутнасці сацыяльна-эканамічных, палітычных і культурных ідэй Каліноўскага. Думаецца, што, гаворачы пра ўплыў польскай культуры на беларускую інтэлігенцыю ў XIX стагоддзі, трэба абавязкова ўлічваць такую з'яву: частка яе абавязкова прымала каталіцтва і нават лічыла сябе палякамі. У Каліноўскага іншая сітуацыя: ён адмовіўся ад шляхецтва і падкрэсліваў сваю блізкасць сялянам і беларускаму народу. Сялянскі дэмакрат Кастусь Каліноўскі заўсёды быў з ім.

Даследчык звярнуўся да публіцыстычнай спадчыны Каліноўскага, які выдаваў, як вядома, "Мужыцкую праўду" па-беларуску, "Хоронгев свободы"("Сцяг свабоды") па-польску і ў Кёнігсбергу газету "Глос" на той жа мове. У апошняй павінна была падавацца інфармацыя з раёнаў паўстання. Г.Кісялёў вядзе параўнальны аналіз "Пісьмаў з-пад шыбеніцы" і карэспандэнцый з газеты "Глос" з Літвы, якая выходзіла пасля гібелі К.Каліноўскага. Ён асцярожна допускае, што аўтарам мог быць беларускі змагар. Аднак не выключана і тое, што напісана яна паплечнікамі-аднадумцамі беларускага рэвалюцыйнага дэмакрата. Такім чынам, даследчык уводзіць у навуковы зварот новы публіцыстычны пласт матэрыялу, які павінен быць вывучаны навукоўцамі.

Адзначым, што неабходны сучасны, абноўлены летапіс жыцця і дзейнасці беларускага змагара. Можна нават назваць гэту кнігу "Каляндар Каліноўскага" і выдаць на высокім мастацка-паліграфічным узроўні, як "Каляндар Скарыны" (Мн., 1988). Таксама неабходна гістарыяграфічная праца, прысвечаная К.Каліноўскаму з аналізам (а не аглядам літаратуры -- такі ўжо ёсць) усяго, што назапашана ў "Каліноўскіяне".

Галоўнае, што наспела тэрмінова выдаць, -- гэта энцыклапедычны даведнік "Каліноўскі і яго час". Маючы выдатных даследчыкаў жыцця, дзейнасці, светапогляду Кастуся Каліноўскага, такіх, як Г.Кісялёў, В.Шалькевіч, У.Казбярук і інш., проста грэх не зрабіць такую важную, адказную, неабходную для беларускага грамадства справу. Мяркуем, што выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя" і Аддзяленне гуманітарных навук АН Беларусі падтрымаюць гэты пачын.

**Марат БАТВІННІК,**
**кандыдат гістарычных навук.**

**Заканчэнне.**
**Пачатак у № 11.**

*БРАТ ВЯЛІКАГА ПАЭТА*

# СЛОВА ПРА ДЗЯДЗЬКУ ЮЗІКА

"Мой родны кут, як ты мне мілы!.." Вось ужо колькі дзесяцігоддзяў гэтыя крылатыя радкі прыемна вярэдзяць душу кожнага сапраўднага беларуса. Асаблівую моц набываюць яны ў родных мясцінах самога творцы. А калі, бывала, чуліся з вуснаў паэтавага брата -- яшчэ большаю лагодай адбіваліся ў душы. Гэтаксама, як і ўся паэма.

А чытаў Іосіф Міхайлавіч славутую "Новую зямлю" адмыслова. Цэлыя раздзелы мог прапанаваць удзячным слухачам. Сваё выступленне звычайна пачынаў так:

"Я з'яўляюся малодшым братам Якуба Коласа. Завуць мяне Юзік. Колас у сваёй паэме "Новая зямля" піша:

**А гэты Юзік -- шаляніца,**
**Малы яшчэ, зусім дурніца.**
**Так пад нагамі і таўчэцца**
**Або, як хвост той, валачэцца**
**І ад работы адрывае,**
**І толькі сэрца ад'ядае.**

У другім месцы, у раздзеле "За сталом", Колас зазначае:

**Малыя -- Гэля, Юзік, Ганна --**
**Асобна елі пастаянна.**
**Парадку дзеці не прымалі,**
**І іх ніколі не сціскалі,**
**Абы насоў не разбівалі.**
**Так, Юзік пальцам**
**поркаў страву**
**І верашчакай мазаў лаву,**
**Але тут сёстры сердавалі**
**І залаб Юзіка цягалі.**
**Тады іх згода прападала,**
**Між імі бойка вынікала.**
**Пускаў тут Юзік**
**лыжку ў дзела;**
**Не раз лабаціна трупцела**
**У сястрычак Гэлі ці Ганулі.**
**А сёстры Юзіка цягнулі**
**За вушы з двух бакоў і білі.**
**Але іх старшыя мірылі, --**
**На пожар злосці лілі воду**
**І замацоўвалі так згоду:**
**-- Ну, пацалуйцеся**
**ж вы з браткам! --**
**І ўсё йшло зноў**
**сваім парадкам.**

Невялікі каментарый-перадых -- мы зноў у палоне Коласавай паэзіі. З Міхалам нясём нялёгкую службу лесніка, дамагаемся ўласнага кавалка зямлі і хлеба, з дзядзькам Антосем варым клёцкі і падгледжваем пчол, едзем у Вільню, з Міхалавымі дзецьмі вучымся і весела бавім час.

Слухаеш, бывала, Іосіфа Міхайлавіча і забываеш, што гаворыць ён словамі мастацкага твора. Гэтак натуральна, без напружання, плаўна і даходліва ліліся радкі вялікага песняра. "Тут усё сваё, пражытае", -- заўважаў прамоўца.

Пражытае... Вядома, "Новая зямля" быў яго каронны нумар. Але ж шмат якія іншыя творы брата -- і паэтычныя, і празаічныя -- захоўваліся на "паліцах" ягонай памяці! Выдатна чытаў дзядзька Юзік (так любоўна, па-свойску звалі гэтага няўтомнага чытальніка ў народзе) Купалу, Крапіву, Шаўчэнку, Пушкіна, Чэхава, Міцкевіча...

Нарадзіўся Іосіф Міхайлавіч, малодшы з братоў Якуба Коласа, 11 сакавіка 1895 года ў Альбуці. Сям'я ў бацькі была вялікая, і Юзік рана ўцягнуўся ў нялёгкую сялянскую працу. Ад 10 гадоў пасвіў каровы, пазней ганяў па Нёмане плыты, дапамагаў дзядзьку Антосю, які вёў гаспадарку, бо бацька, Міхал, амаль не стыкаўся дома, увесь час быў заняты на службе -- ахоўваў лес князя Радзівіла. Вучыцца даводзілася толькі прыхваткамі. Юзік скончыў народную школу ў вёсцы Мікалаеўшчына, паступіў у гарадское Стаўбцоўскае вучылішча. Але неўзабаве вымушаны быў перарваць вучобу і зноў заняцца гаспадарчымі справамі.

А там пачалася імперыялістычная вайна, і яго забралі на фронт. Нясоладка жылося і пад акупацыяй санацыйнай Польшчы. Нядоўга цягнуліся дні пасля вераснёўскіх падзей 1939 года. Пачалася Вялікая Айчынная вайна. Хапала клопатаў і пасля перамогі над гітлераўскімі захопнікамі. Яго, Юзіка Міцкевіча, выбралі першым старшынёю калгаса "Радзіма Якуба Коласа". Пра ўсё гэта Іосіф Міхайлавіч экскурсантам звычайна не расказваў. Ён ведаў: людзі прыйшлі да Коласа, і пра Коласа -- яго жывое, шчодрае слова...

Яшчэ пры жыцці народнага паэта Іосіф Міхайлавіч заўзята папулярызаваў яго творчасць. Не стала дзядзькі Якуба -- дзядзька Юзік цалкам аддаўся гэтаму пачэснаму занятку. Прыедуць на радзіму беларускага песняра людзі -- хто лепш за яго пакажа і раскажа?!

З 1967 года, калі на хутары Смольня, паблізу ад Мікалаеўшчыны, адкрыўся філіял Літаратурнага музея Якуба Коласа, Іосіф Міхайлавіч становіцца штатным экскурсаводам. У кнігах водгукаў нямала шчырых, пранікнёных слоў -- яму, цікаваму і самабытнаму правадніку.

"З хваляваннем хадзіла па музеі... Вельмі ўдзячная брату Коласа -- Юзіку Міцкевічу -- за разумны і тонкі расказ, за глыбокую дабрыню і шчырасць. Знаёмства з ім расцэньваю як гістарычнае, таму што ніхто так добра не мог бы мне расказаць пра вялікага народнага паэта Коласа, як яго родны брат", -- зазначыла ў 1973 годзе карэспандэнт газеты "Советский спорт" спадарыня Арэшкіна.

"Шчырую ўдзячнасць за праведзеную экскурсію" выказваюць Іосіфу Міхайлавічу турысты з Валыні.

Вучні Налібоцкай школы запісалі:

"Шчыра дзякуем дзеду Юзіку за тыя хвіліны, што перанеслі нас у слаўны час маленства народнага паэта Беларусі Якуба Коласа. Праз усё жыццё будзем памятаць гэты дзень сустрэчы з паэзіяй".

"Нізкі паклон і найлепшыя пажаданні добраму сябру дзядзьку Юзіку" шлюць студэнты-філолагі Белдзяржуніверсітэта.

"Вялікі дзякуй за экскурсію! Добрага вам здароўя, Іосіф Міхайлавіч!" -- жадаюць земляткі Льва Талстога.

І так праз усе кнігі водгукаў.

Выступаў дзядзька Юзік і "з адрывам ад вытворчасці". І ўсюды найвялікшую ўдзячнасць меў за прынесеную радасць і асалоду.

5 мая 1980 года не стала няўтомнага і непаўторнага прапагандыста роднага слова. Застаўся ён у фотаздымках, фоназапісах, кінакадрах. Застаўся ў памяці людской...

**Іван КУРБЕКА.**



**НА ЗДЫМКУ: Іосіф Міхайлавіч з дзецьмі ў філіяле музея. 1972 г.**




"Янка КУПАЛА". Шарж Яна КАШКЕЛЯ.
Публікацыя Л. НАЛІВАЙКІ.

## ДА ЧЫТАЧОЎ "ГОЛАСУ РАДЗІМЫ"

**Паважаныя сябры!**

**Доўгі час мы рабілі ўсё магчымае, каб вы не гублялі лучнасці з Бацькаўшчынай і атрымлівалі весткі праз нашу газету. "Голас Радзімы" фактычна пакуль адзінае выданне, якое трапляе да беларусаў як далёкага, так і блізкага замежжа. Мы вельмі ўдзячны ўсім нашым чытачам, якія падтрымліваюць газету і застаюцца з намі.**

**На жаль, у сувязі з пагаршэннем эканамічнага становішча з кожным днём робіцца ўсё цяжэй знаходзіць сродкі на выданне газеты і яе экспедзіраванне. Больш таго, з пачатку гэтага года расходы на паштовыя адпраўленні за мяжу павялічыліся ў шэсць разоў. Дзе ўзяць такія вялікія сродкі!**

**Мы звяртаемся да ўсіх нашых чытачоў і прыхільнікаў "Голасу Радзімы" з просьбай падтрымаць газету, якую вы лічыце сваёй і якая вам патрэбна. Будзем удзячны за любыя ахвяраванні на газету, якія можна дасылаць у выглядзе чэкаў на адрас рэдакцыі або пераводзіць на рублёвы рахунак выдавецтва "Полымя" з паметкай:**

**"Для газеты "Голас Радзімы" (Р/р 363902 у Гардырэкцыі Белбізнесбанка г.Мінска, код 764).**

**Спіс ахвярадаўцаў будзе рэгулярна друкавацца ў газеце.**

**Спадзяемся на вашу дапамогу.**

**РЭДАКЦЫЯ ГАЗЕТЫ "ГОЛАС РАДЗІМЫ".**

Марцін КОЎЗКІ

## САТЫРЫЧНЫЯ МІНІЯЦЮРЫ

**Падслепаваты праціўнік небяспечны -- ён можа не звярнуць увагі на твае падманныя манеўры.**

**-- Падстрахуемся, -- сказаў страус, выцягнуў галаву з-пад крыла і ўсунуў у пясок.**

**Порах выдумаў той, хто яго не нюхаў.**

**Парадак дня на сходах мяняўся, а абмяркоўвалі адно і тое ж -- align="" рознае.**

**Парламенцкі дыялог.**
**-- Параліч улады -- гэта рэгрэс дзяржавы.**
**-- Так-то яно так, ды параліч прагрэсіўны.**

*СПОРТ*

### ПАКРЫЎДЗІЛІ МАСКВІЧОЎ

Завяршыліся папярэднія гульні чэмпіянату Міжнацыянальнай хакейнай лігі. Мінская каманда хаця і не трапіла ў плэй оф, але паказала сябе нядрэнна. Асабліва шмат ачкоў у гульнях з нашай камандай страцілі маскоўскія каманды. Напрыклад, "Спартак" прайграў нашым землякам тры сустрэчы з чатырох і таксама не змог прабіцца ў галоўны этап спаборніцтваў.

### НЯПОЎНЫМ СКЛАДАМ

У Бірмінгеме прайшоў чэмпіянат свету па фігурнаму катанню. Каманда Беларусі тут выступала ў няпоўным складзе. Нашым спартсменам не ўдалося стаць прызёрамі. Танцоры Самвел Гезалян і Таццяна Наўка, лепшыя з іх, занялі толькі 7-е месца. Праўда, гэта можна лічыць поспехам, бо ў іх яшчэ мала вопыту выступленняў у такіх прэстыжных спаборніцтвах.

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.



Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны,77). Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 590. Падпісана да друку 20. 3.1995 г.